*Свята ў Аўгустове* → 3




# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


*Юбілейнае Х „Ператоча"* → 8




http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 34 (2936) Год LVII | Беласток, 19 жніўня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)






# Гуляць трэба ў Міхалове

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Гэтая імпрэза вырастае на адно з цікавейшых мерапрыемстваў па мастацкай і арганізацыйнай прыкмеце. Гаворка пра „Прымацкую бяседу" ў Міхалове. Сёлета праводзіўся другі яе выпуск. Некалькі раз стралялі феерверкі. Былі парасяты, печаныя на агромных ражнах. Апрача мясцовых беларускіх ансамбляў, выступілі несумненныя зоркі з Беларусі: мінскія „Песняры" і „Свята" ды „Сваякі" з Мазыра. Да позняй ночы ролю гаспадара выконваў калектыў „Прымакі" з яго кіраўніком Юры Астапчуком і „мама Валя", значыць, Валянціна Ласкевіч з Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**



„Бяседу" пачаў, пасля паўтараны шматразова, гімн „Гэй, прымацкая бяседа, гуляць трэба сёння нам!". Амаль ад пачатку на пляцы перад міхалоўскім амфітэатрам музыка заахвочвала пусціцца ў танцы сотні гледачоў. Сярод іх прыкмецілі мы і спадара Уладзіміра з Рыбал, працаўніка нарваўскага „Пронару", пастаяннага наведвальніка летніх фэстаў, з якім у апошні час размаўлялі мы на „Сяброўскай бяседзе" ў падгарадоцкім Барыку:

— Тут падабаецца мне найбольш. Вы бачылі, якія тут калектывы? Тут з'явіўся цвет беларускіх калектываў! Нават з Нарвы ёсць два! („Нарва" і „Арт-Пронар" — М. Х.)

Юры Астапчук яшчэ да пачатку імпрэзы пераконваў нас:

— Гэтая імпрэза вельмі патрэбная, бо паказвае, што беларуская культура тут ёсць і жыве. Калі будзем у Міхалове арганізаваць такія святы, то гэтая культура будзе яшчэ больш жывая. Стараемся ўсё тут падрыхтаваць так, каб наша імпрэза была на найвышэйшым узроўні. Бацька мяне навучыў, што калі ўжо за штосьці бярэшся, дык рабі тое салідна. Дзякуючы дапамозе беларускага міністэрства культуры, маем такія зоркі з Беларусі. Інакш мы не былі б у змозе іх запрасіць.

Запрошаныя беларускія зоркі адрэкамендаваліся так, што сапраўды заслугоўваюць на сваю назву. Несумненна гэтак было ў выпадку легенды беларускай эстрады — „Песняроў". Першую частку свайго выступлення пачалі яны песняй „Спадчычна" на словы Янкі Купалы. Кіраўнік калектыву Вячаслаў Шарапаў:

— „Песняры" гэта вялікая музычная традыцыя. Ансамбль існуе больш за сорак гадоў. Змянілася ў ім хіба з пяць пакаленняў. Наймалодшы з сяброў цяперашняга складу мае 22 гады. Гады тры таму спявалі мы ў варшаўскай Кангрэсавай зале. Сёлета ўжо заспявалі мы ў В'етнаме і Кітаі. З'ездзілі ўсю Расію і амаль усю Украіну. На Беласточчыне мы толькі цяпер. Працуе ў нас дзевяцёх артыстаў, а дваццаць чалавек складае нашу „інфраструктуру". Тут, у Міхалове, усё выдатна сарганізавана.

Іншая зорка — Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі „Свята" штодзень дзейнічае пры Дзяржаўнай філармоніі ў Мінску. Існуе ад 1984 г. Людміла Галаваш, харэографка групы:

— У час нашых канцэртаў усё ў руху. Кожнае выступленне гэта для нас заўжды свята душы. Маем у рэпертуары даўнюю музыку, у тым ліку з беларускага Палесся.

Іншай зоркай былі аматарскія „Сваякі" (спалучэнне тэхна і традыцыйнай беларускай музыкі). Кіраўнік калектыву Аляксей Зайцаў:

— Нашаму ансамблю праз год будзе дваццаць гадоў. Тут, на Беласточчыне, мы вядомыя. Калі ехалі сюды, па дарозе ў нас пыталіся, дзе і ў якую гадзіну мы выступім. Праз інтэрнэт прыйшло шмат добрых слоў, калі людзі даведаліся, што сюды едзем. Усе пыталіся, ці маем новы дыск. Маем!

Аліна і Наталля ў „Сваяках" толькі год:

— Мы трапілі ў ансамбль з кастынгу. Выступаць у „Сваяках" гэта вялікі гонар.

Жонка Аляксея Зайцава:

— Выступаю з ансамблем ад 20 гадоў, значыць, столькі, колькі гадоў нашай дачцэ. Яна вучыцца ва Універсітэце культуры. Калі кончыць, будзе прадзюсерам групы. Я ў „Сваяках" спачатку танцавала. Цяпер ствараю харэаграфію ансамблю. Праца ў ім гэта ўсё маё жыццё, укладваю ў яе ўсю сваю душу. Маімі музычнымі зоркамі з'яўляюцца Фрэдзі Меркуры, Мадонна і Майкл Джэксан.

На „Прымацкай бяседзе" паявіліся пасол РБ у Польшчы Віктар Гайсёнак, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Аляксандр Берабеня і новы дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко. Пасол Гайсёнак сказаў „Ніве":

— Гэта з нашага пункту гледжання вельмі важнае мерапрыемства. Перш за ўсё таму, то сарганізаванае яно не дзесьці ў вялікім горадзе, а ў невялікай гміне, хаця, дарэчы, заможнай. Важна тое, што перш за ўсё для людзей пражываючых у гміне. Яны адчуваюць, што мы з'яўляемся суседзямі, можам разам працаваць і спяваць і гэта добрая падстава, каб развіваць нашыя кантакты.

Эдуард Швайко:

— Добра, што фестывальны беларускі рух на Беласточчыне развіваецца. Я ўпэўнены, што гэты фестываль мае будучыню.

Незалежна ад водпуску, у Міхалове прысутнічаў падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў і шэф парламенцкай групы па справах Беларусі:

— Я стараюся штогод бываць на імпрэзах, арганізаваных гмінамі з памежжа нашага рэгіёна. З захапленнем назіраю, як становяцца яны штораз больш прафесіянальнымі.

Бурмістр Міхалова Марк Назарка сказаў са сцэны:

— Гісторыя нашай гміны вырасла са шматкультурнасці. Мы выхаваліся ў шматкультурнасці і талерантнасці. Я заўсёды падтрымліваў і буду падтрымліваць такія дзеянні.

Пры нагодзе ўспомніў аб супрацоўніцтве з горадам-пабрацімам у Беларусі — Ваўкавыскам, дэлегацыя якога прыехала на „Бяседу". Спаслаўся на супольна рэалізаваную еўрасаюзную транспамежную праграму „Польшча-Беларусь-Украіна":

— Кожны з бакоў мае шанц атрымаць па восем мільёнаў злотых. Плануем, што з гэтых грошай узнікнуць новы парк, два стадыёны, мол над Семяноўскім вадасховішчам і шмат іншых аб'ектаў турыстычнага характару.

На супрацоўніцтва Міхалова з Ваўкавыскам спаслаўся ў размове з намі таксама пасол Гайсёнак:

— Перад прыездам на гэтае свята я размаўляў з бурмістрам і дайшлі мы да высновы, што мы задаволены гэтым супрацоўніцтвам.

Пасля такой добрай ацэнкі гэтага супрацоўніцтва мы спыталіся ў спадара пасла, ці можа ўжо вядома, калі будзе ўведзены малы памежны рух паміж нашымі краінамі (адпаведная дамова ад месяцаў чакае толькі подпісу прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі):

— Неаднаразова ўжо гэта каменціравалі нашы міністэрствы. Пакуль няма ў мяне нічога, каб да гэтага дадаць.

Сярод міхалоўскай публікі мы падслухалі выпадкова, што ад новага школьнага года ў мясцовай пачатковай школе і гімназіі будзе навучацца беларуская мова. Марк Назарка:

— Гэта ініцыятыва некалькіх бацькоў. Падала заявы чвэрць усіх вучняў, значыць, 120 асоб. Я лічу, што ініцыятыў мясцовых супольнасцей тармазіць нельга.

Беларускую мову ў Міхалове будзе вывучаць 120 вучняў.

Прысутны на „Бяседзе" дырэктар пачатковай школы і гімназіі ў Міхалове Ян Лукша не скрываў гонару:

— Навучанне беларускай мове датычыць будзе заадно так пачатковай школы, як і гімназіі. Лік ахвотных пераўзышоў мае спадзяванні, і гэта для мяне мілая нечаканасць. Маем ужо настаўніцу — Альжбету Раманчук з Чаромхі. Будзе гэта навучанне ў групах па тры гадзіны ў тыдні.

Мы спыталіся ў бурмістра Назаркі, ці пасля ўвядзення беларускай мовы ў школу, не час у Міхалове на двухмоўныя ўказальнікі мясцовасцей:

— Гэта тэма вельмі спрэчная. Я ўжо неаднаразова казаў, што гэта мусіць быць вынікам нізавой ініцыятывы. Нельга нічога рабіць сілай.





# Мара Ларысы

Традыцыйныя ўрачыстасці ў Зэльве, прысвечаныя памяці вялікай беларускай паэткі і патрыёткі Ларысы Геніюш, у гэтым годзе прайшлі даволі сціпла. Малебен у царкве, пасля выступы ля помніка паэткі на прыцаркоўнай тэрыторыі. Вёў імпрэзу Міхась Скобла — вядомы паэт і зямляк Ларысы Геніюш. Выступіў святар, пасля яшчэ некалькі чалавек. Эдвард Дмухоўскі расказаў пра кнігу „Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы" якая выйшла ў серыі „Гарадзенская бібліятэка". Там жа жадаючыя маглі набыць яе. Прагучалі радкі з вершаў вялікай паэткі. Прагучалі словы беларускай патрыёткі і пад гітару. Тацяна Грыневіч-Матафонава праспявала некалькі песень, у тым ліку і на словы Ларысы Геніюш. Пасля прысутныя накіраваліся на могілкі і там таксама ўшанавалі памяць сваёй вялікай землячкі. Людзі ўсклалі кветкі на магілу Ларысы і Янкі Геніюшаў. Жадаючыя таксама мелі мажлівасць пабачыць у невялічкім царкоўным музеі Евангелле, якое падарыла Ларыса Геніюш царкве і сама аздобіла яго аксамітам. Вось збольшага і ўсё.

Зразумела, што не абышлося без міліцыі, якая ездзіла за ўдзельнікамі мерапрыемства і за нечым пільна сачыла. Не абышлося і без цікавання не толькі з боку міліцыі. Але службоўцы не перашкаджалі ўдзельнікам, а тыя не звярталі аніякай увагі на службоўцаў. У Беларусі зараз так шмат міліцыі на вуліцах, што на яе ўжо ніхто не звяртае ўвагі. Нават злачынцы прывыклі да людзей у мундзірах як да інтэр'еру якога. А нейкая частка беларусаў увогуле лічыць, што міліцыя ў нашай краіне існуе выключна для змагання з апазіцыяй. І нічога іншага яна не робіць, не ўмее рабіць і не жадае.

Праўда, ёсць і такія, хто думае, што міліцыянер можа паказаць дарогу, калі яго пра гэта ветліва папрасіць. Але так думаюць збольшага іншаземцы. Мясцовы ж люд перакананы, што ў міліцыі лепш нічога не пытацца і ўвогуле не звязвацца з ёй аніякім чынам. Папершае, гэта не мае аніякага сэнсу. Наўрад ці міліцыя сама ведае тую дарогу, якую трэба. Па-другое, няма гарантый што скажа праўду, нават калі ведае. А па-трэцяе, лепш набыць у Польшчы на распродажы навігатар альбо купіць мапу. Танней абыдзецца чым пытацца ў міліцыі. І значна бяспечней.

Пасля імпрэзы ўдзельнікі раз'ехаліся ў розныя бакі. Усё нібыта добра, толькі вось нейкі скрыпучы смутак адчуваўся і праглядваўся як на тварах, так і ў душах прысутных. Ніхто не мог зразумець да канца адной рэчы. Чаму гэтую імпрэзу робяць заўзятары, а не ўлада? Чаму мясцовая адміністрацыя не ганарыцца сваёй вялікай землячкай і не славіць яе імя? Чаму сёння Ларыса Геніюш выкрэсленая са школьных падручнікаў?

Пры Савецкім Саюзе ўсё было ясна як Божы дзень. Ларыса Геніюш не любіла СССР, і СССР адказваў ёй узаемнасцю. Паэтка нават не ўзяла савецкага грамадзянства. А другога ёй не давалі. Так і жыла без пашпарта, затое пад пільным наглядам спецслужбаў, якія адсочвалі кожнага, хто да яе завітваў. Яна прайшла савецкія лагеры, вытрымала вялікія пакуты, але не скарылася. Жыла і далей дзеіла ў імя любай Беларусі.

Зараз Беларусь незалежная краіна. Прынамсі так запісана ў Канстытуцыі. Дык чаму ж гэтая вольная краіна не хапаецца за імя Геніюш, якое можа гэтую незалежнасць толькі ўзмацніць і праславіць. Кожная ўлада ўсялякай незалежнай краіны так бы і зрабіла. І не важна, якая гэта была б улада. Дэмакратычная, манархічная, аўтарытарная ці яшчэ якая. Незалежнасць яна і ёсць незалежнасць. Гэта акурат тое, што патрэбна ўсялякай уладзе, і гэта таксама тое, пра што марыла і што славіла сваёй творчасцю вялікая Ларыса Геніюш. Ды відаць яшчэ не збылася яе мара. Бо калі не шануюць у краіне патрыётку гэтай краіны, то пра якую сапраўдную незалежнасць гаварыць можна. І тут імя Ларысы Геніюш ёсць пэўным каталізатарам. Толькі тады, калі ўлада сама пачне праводзіць гэтую зэльвенскую ўрачыстасць, толькі тады можна будзе сказаць, што збылася вялікая мара Ларысы Геніюш і іншых беларускіх патрыётаў. Толькі тады можна будзе гаварыць пра сапраўдную Незалежнасць.

Віктар САЗОНАЎ



# Пустая хата

І зноў мая хаціна пустая. Паехалі мае госці. А калі ад'язджалі, дык ішоў дождж. Развіталіся мы неяк так спешна, неяк так крадком, бо час паганяў. Ну і ішоў дождж. А яшчэ да нядаўна іхнія галасы — сапраны, альты, тэнары і басы дарослых і дзіцячая гамана напаўнялі ад світання да змроку мой агарод. Мой агарод сапраўды па-каралеўску багаты ў іх дробныя спрэчкі і сур'ёзныя дыскусіі, у свавольствы і забавы. Цяпер стаіць як ашаломлены. Ды я суцяшаюся: праз год вернуцца, як толькі заквітнеюць настуркі. Калі аб гэтым прыгадаю, адразу мне на сэрцы лягчэй становіцца і прападае туга. Ды бывае, што не вяртаюцца. Тады так балюча тужліва, што сэрца цвярдзее на камень. Страчваюцца блізкія, меншае сяброў, штораз менш сардэчных знаёмых. Прыбывае толькі слоў, якія ў пару нявыказаныя, не могуць ужо больш ніколі выказацца. Туга калісь была як вячэрняя імгла засноўваючая надрэчныя лугі. Наступала памалу, зацягваючы штораз гусцейшай заслонай тое, што было яе прычынай. Пасля ападала, пакідаючы па сабе месячную расу забыцця. Сёння, пакуль ахопіць яна розум, насоўвае перад сабою пранiклівы холад, які раптам застывае на камень, і не хоча ўжо нічому іншаму ўступіць месца.

Толькі палова жніўня. Жніво ўжо канчаецца. Ночы штораз даўжэйшыя. Яшчэ гэта не восень, але для мяне ўжо кончылася лета. Неадменна. Буслы ўжо перад адлётам. Бярозы пачынаюць церушыць прывялым лісцем. Зажаўцеў ад яго лясны дол. І як тут знайсці лісічку, як падбярозавіка, як баравіка? Сёлета сыпануліся ядомыя часначкі, з маленькімі капялюшыкамі і шпагатнымі ножкамі. Сваёй назвай абавязаны яны свайму імяніннiку часнаку — кесару ўсялякіх спецый. Калі іх высушыць, не страчваюць свайго кесараўскага арамату. Пакрышаныя знакаміта дадаюць смаку зімовым густым супам. Таксама прыдарожкі, што любяць percтвараючыяся ў стэп лугі, да якіх грыбнікі ставяцца з пагардай, дачакаліся майго візіту над рэчкай. Ем іх сырымі або сушу і прымяняю як спецыі. Сапраўднае смакоцце! У Амерыцы іхні смак цэніцца больш чым баравікоў. У Польшчы яны надалей невядомыя. Найбольш іх расце над рэчкай. Ды над Нарву я хаджу зрэдчас. Нарва, тая мая Нарва, плыве ўжо толькі ў маёй памяці. Ніхто ўжо перад ёю не здымае шапкі і, сасмаглы, не пагрузіцца ў яе празрыстую ваду, каб дасыта напіцца. Цяпер гэта збоўтаны, замулены цёк. Не бліскае як гадамі таму лускамі сонечных люстэрак, не плюскаюцца ў ім выхухолі-піжмакі, не аблятаюць яго выгібы ластаўкі-беражанкі. Таму тым больш ахвотна я валачуся па Пушчы. Ды і яна цяпер здаецца быць пустой. Змоўклі птушкі. Зрабілі ўжо сваё — выгадавалі птушанят, навучылі іх лятаць. Адны ўжо адляцелі, іншыя рыхтуюцца ў вырай. Няма патрэбы марнаваць сілу на ўтомнае спяванне. Толькі сарока час ад часу раздзярэ дзюбак, што быццам бы нейкі парушальнік наведаў лес. І раптам западае ціш. Цішыня тым больш дакучлівая, што пасля ад'езду маіх гасцей поўна яе не толькі ў Пушчы, але і ў маёй хаціне. Ды нашто я гэта пішу? Ну, не ведаю, здаецца, не хачу ведаць. Дык няхай так застанецца.

Тым часам у Беларусі Аляксандр Лукашэнка патрабаваў паскорыць тэмп уборкі ўраджаю. Кіраўнік дзяржавы гаварыў аб гэтым на апошняй нарадзе датычнай жніва. Асновай сельскай гаспадаркі ў Беларусі з'яўляюцца калгасы і саўгасы, якія гарантуюць 98 працэнтаў сельскагаспадарчай вытворчасці. Яшчэ ў кастрычніку Лукашэнка казаў, што лічыць гэты спосаб іх арганізаванасці ідэальным для сельскай гаспадаркі. Сёння здаецца ў гэтым сур'ёзна сумнявацца. На яго думку, „некаторыя прадстаўнікі ўлад адказныя за жніво і іншыя палявыя работы трапілі ў самасупакоенасць, паколькі мяркуюць, што добрае надвор'е будзе працягвацца надалей і паспеюць з палявымі работамі. «Чаго чакаем? — нерваваўся прэзідэнт дзяржавы. — Меўшы такі парк камбайнаў? Гучалі абяцанні, што ў такой сітуацыі да 10 жніўня ўборка будзе завершана, а тут у нас адна трэць ураджаю надалей на палях?!» Ды што я тут пішу? У гэты раз ведаю, чаму. Чакаю гасцей з Беларусі. А калі там будуць надалей так цягнуцца з уборкай ураджаю, дык невядома, ці яны прыедуць. Бо калі Лукашэнка раззлуецца, дык пазачыняе межы і ўсіх грамадзян загоніць да жнівавання. І нафіг яму тое, што я тут, у маёй хатцы, усё чакаю сваіх гасцей... З Беларусі ці беларускага калгаса?

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Па-за ўражлівасцю ўлад



У кастрычніку 2009 г. Мацей Жыўна, падляшскі ваявода (значыць, дзяржаўная казна) перадаў Гарадской управе Беластока будынак на рагу вуліц Кракаўскай і св. Роха. Калісь тут змяшчаўся скурны шпіталь. Згодна з намерам ваяводы, яго распараджальнікам у цэласці меўся стаць Цэнтр падтрымкі няўрадавых арганізацый (ЦПНА), значыць, памяшканнямі мелі карыстацца дзесяткі, а нават сотні няўрадавых арганізацый беластоцкай сталіцы і ўсяго рэгіёна, у тым ліку і арганізацыі нацыянальных і этнічных меншасцей. Цяпер няўрадавыя арганізацыі маюць у сваім распараджэнні крыху больш за сотню квадратных метраў па вуліцы Святаянскай. У новай сядзібе на чатырох паверхах мелі б яны больш за 1 400 квадратных метраў. У кастрычніку 2009 года ваявода Жыўна пры святле журналісцкіх фотаўспышак і мікрафонаў адзначаў:

— Перадаю камяніцу на канкрэтную публічную мэту. Няўрадавыя арганізацыі рэалізуюць шмат публічных задач. Будынак мае служыць развіццю і актыўнасці няўрадавых арганізацый і будаванню іх супрацоўніцтва з публічнай так самаўрадавай, як і ўрадавай адміністрацыяй.

На пачатку жніўня бягучага года прадстаўнікі няўрадавых арганізацый пасля сустрэчы з уладамі Беластока пачулі, што ў будынку на рагу вуліц Кракаўскай і св. Роха знаходзіцца памяшканні для дэпартаментаў Гарадской управы, праводзіцца тут будуць сесіі Гарадской рады, а няўрадавым арганізацыям застанецца для распараджэння толькі найвышэйшы паверх. Усё гэта, як тлумачыла намесніца прэзідэнта горада Рэната Пшыгодзкая, з-за эканамічных прычын. Таму, як заявіла пасля намесніца прэзідэнта, сустрэча ўлад Беластока з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацый мела інфармацыйны характар. Аб консультацыях з імі ў справе выкарыстання камяніцы нават не было гаворкі. На інтэрнэтных сайтах і ў лакальнай прэсе разбушавалася бура. Няўрадавыя арганізацыі адчулі сябе абманутымі прэзідэнтам і ваяводам.

Аднак, ваявода не адмяніў рашэння. На фейсбуку зрабіў заяву: „Калі ў 2005 годзе я працаваў над стварэннем ЦПНА па вуліцы Святаянскай, я ведаў, што патэнцыял арганізацый значна большы і будзе патрабаваць значна лепшых умоў для развіцця. Я ўцешыўся, што як ваявода магу гэтую задуму працягваць, і што больш — перадаць вялікі аб'ект на гэтую мэту. Лічу, што тэма добраўпарадкавання і канцэпцыі цяпер адкрытая, паколькі я перадаў аб'ект з намерам выкарыстання няўрадавымі арганізацыямі і буду за гэта змагацца!!!".

І фактычна. У экстранным парадку ваявода паклікаў да сябе намесніцу прэзідэнта горада Пшыгодзкую. Пасля сустрэчы Мацей Жыўна напісаў на фейсбуку: „Кансультацыі будуць працягвацца. Я веру, што прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі адрэагуе і выканае абавязацельствы. Я запэўніваю, што буду пільнаваць, каб галоўная мэта, менавіта перадача будынка ЦПНА, была рэалізавана!!!". У час сустрэчы з ваяводам, намесніца прэзідэнта Пшыгодзкая, даючы згоду на чарговую вераснёвую сустрэчу з няўрадавымі арганізацыямі, мела заявіць, што з натарыяльнага акта не вынікае, каб у спрэчным будынку меў узнікнуць цэнтр падтрымкі няўрадавых арганізацый. Іншы з намеснікаў прэзідэнта горада Беластока Анджэй Меер у размове са мною не скрываў:

— У дагаворы дарэння мэта вельмі шырокая: на ўласныя заданні гміны, асабліва культурныя, і няўрадавых арганізацый. Уласныя заданні гміны таму мы можам рэалізаваць у гэтым месцы. Можа знойдзецца формула, як няўрадавыя арганізацыі могуць гэты будынак утрымаць, ды няма ў гэтай галіне нейкай ахвоты.

У сувязі са спрэчкай наконт мэты выкарыстання аб'екта я хацеў заглянуць у дагавор дарэння. Ад імя ваяводы яго дарадчык Славамір Андрышэўскі адказаў, што яго шэф пакажа змест дагавора, калі гарадскія ўлады ў гэтай спрэчцы не ўступяцца. Аказваецца, значыць, што ваявода мусіць разлічваць нават на прымяненне шантажу, пры ігнараванні беластоцкіх улад (гэта не першая гэтага, дарэчы, праява) адносна няўрадавых арганізацый, значыць, г.зв. трэцяга сектара публічнага жыцця, патрэб жыхарoў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН


Будынак царквы ў Аўгустове


Вернікі на малітве перад Аўгустоўскай іконай Божай Маці

# Бог нас суправаджаў

Апошнія дні ліпеня прынеслі ў жыццё праваслаўнага насельніцтва Дуброўшчыны, Аўгустоўшчыны і Сакольшчыны вялікую духоўную падзею. Менавіта туды з далёкага Крэменска-Вазнясенскага манастыра, што ў Валгаградскай вобласці, прыехала Аўгустоўская ікона Божай Маці.

У час боскай літургіі настаяцель аўгустоўскай а заадно і дуброўскай царквы айцец Марк Казлоўскі коратка пазнаёміў прысутных з гісторыяй гэтай іконы і праваслаўных храмаў Аўгустова. Ікона паўстала ў 1915 годзе, неўзабаве пасля з'яўлення Прасвятой Багародзіцы скрываючымся ў аўгустоўскіх лясах расейскім салдатам. Расейцы, апынуўшыся ў акружэнні войск ворага, пачалі горача прасіць Бога аб заступніцтве і дапамозе. 14 верасня ў адзінаццаць гадзін ночы ім з'явілася Багародзіца з маленькім Хрыстом, якая правай рукой указвала дарогу выратавання ад набліжаючайся смерці. Гэтая цудоўная падзея вельмі ўзмоцніла салдат, дзякуючы чаму некалькі дзён пазней яны паспяхова супрацьставіліся войскам праціўніка.

— З-над Дона прыехала да нас цудатворная ікона, — кажа бацюшка Марк. — Сёння і мы можам прынесці свае малітвы, папрасіць у Яе дапамогі і заступніцтва. Спатыкаемся ў сціплым, маленькім памяшканні, але не заўсёды так было. Калісь у праваслаўных аўгуставян былі тры прыгожыя царквы, якія выдатна аздаблялі горад і душы вернікаў. Першая царква паявілася тут у канцы XVI стагоддзя. Дзвесце гадоў пазней паставілі чарговы, драўляны храм, прысвечаны Казанскай Божай Маці з цудоўнай Яе іконай званай Іарданскай. Вялікі храм у гонар апосталаў Пятра і Паўла пабудавалі ў канцы XIX стагоддзя. Ён знаходзіўся у самым цэнтры горада і мог змясціць восемсот чалавек. У пачатку XX стагоддзя з'явілася тут яшчэ адна царква, будынак якой захаваўся да нашых часоў. У ім цяпер касцёл Маткі Боскай Чанстахоўскай. Першы аўгустоўскі цуд быў звязаны з пераняseннем цудатворнай Іарданскай іконы Божай Маці з драўлянай царквы ў Петра-Паўлаўскі храм. Вечарам, напярэдадні планаванай падзеі людзі заўважылі агонь у драўлянай царкве. Увайшоўшы туды з бацюшкам, пабачылі дванаццаць запаленых свечак, якія асвятлялі Божую Маці. Ікона не дазволіла сябе перанесці, а прабуючым падняць яе бацюшкам ападалі рукі.

Пасля разбурэння ўсіх аўгустоўскіх цэркваў у пачатках XX стагоддзя і выезду большасці праваслаўных жыхароў, стараславянскія малітвы заціхлі. Аднаўлення мясцовага царкоўнага жыцця трэба было чакаць больш за шэсцьдзесят гадоў. Менавіта ў 1985 г. праваслаўныя аўгуставяне атрымалі маленькі будынак, у якім моляцца па сённяшні дзень.

— Напэўна цудоўная ікона, якую сёння тут сустракаем, — дабаўляе бацюшка Марк, — дапаможа ў пабудове новага, годнага царкоўнага будынка. Мясцовыя ўлады ўжо назначылі нам кавалак зямлі, які спадзяемся неўзабаве атрымаць. Чакаем таксама фінансавай дапамогі ад вернікаў з Падляшша. Спадзяемся, што не адмовяць яны ў падтрымцы гэтай важнай ініцыятывы.

Такую ж думку выказваюць і мясцовыя прыхаджане. Паводле слоў спадарыні Анны, узвядзенне сапраўднага царкоўнага будынка разам са святліцай выдатна паўплывала б на павышэнне пачуцця іх духоўнай супольнасці.

— Мы ўсе тут прыезджыя, выхадцы з-пад гарадоцкіх, міхалоўскіх і сямятыцкіх вёсак, — тлумачыць спадарыня Анна. — Большасць з нас гэта жанчыны, удовы, якім ужо за семдзесят гадоў. Я сама з Плёсак. У Аўгустова прыехала васемнаццаць гадоў таму. Нас тут мала, на нядзельныя багаслужбы прыходзіць восем-дванаццаць чалавек. Царква адчыняецца нерэгулярна. Часам трэба нам ездзіць у Дуброву-Беластоцкую ці Сувалкі, таму што бацюшка Марк абслугоўвае два прыходы. Калісь, як жыў наш стараста Уладзімір Давідзюк, мы ладзілі святочныя застоллі ў яго прасторнай хаце. Там таксама прымалі пілігрымаў. Цяпер нам няма дзе сустракацца пасля службы. Вельмі не хапае прыхадской святліцы. Пілігрымаў, якія з'язджаюць да нас на прастольнае свята, частуем у рэстаране. Усё-такі спадзяемся на паспяховае завяршэнне нашых планаў і намераў.

І ў гэты раз на долю аўгуставян выпаў гонар сустракаць паломнікаў. Як сказаў іерэй Георгій, духоўны апякун групы з адзінаццаці расіян з Гусева, што ў Калінінградскай вобласці, гэта іх прыход з'яўляецца ініцыятарам малітоўнага падарожжа Аўгустоўскай іконы Божай Маці.

— Мы пазнаёміліся з айцом ігуменам Савінам, з'ездзілі ў Валгаград і дагаварыліся, каб ікона прыбыла да нас, у Гусеў, для малітоўнага пакланення. Заадно мы рашылі, што добра было б, каб яна наведала таксама месца, дзе адбылося яе цудоўнае з'яўленне і такім чынам ікона паявіліся ў Аўгустове. Мы прыехалі, каб малітоўна аб'яднаць Рускую і Польскую праваслаўныя цэрквы перад воблікам Прасвятой Уладычыцы. Учора ікона наведала Дуброву-Беластоцкую. Вельмі прыемна здзівіла нас колькасць людзей, якія прыйшлі яе сустракаць. Там адбылася цудоўная ўрачыстая багаслужба з удзелам шматлікіх святароў. На самой справе, мы не чакалі такога прыёму. Наш Гусеўскі прыход блізка супрацоўнічае з праваслаўнымі ў Польшчы. Можам пахваліцца выдатнымі суадносінамі. Няраз пабывалі мы тут на прастольных святах і прымалі ў сябе пілігрымаў з Элка, Сувалкаў і Аўгустова. Сёння яшчэ хочам папасці ў Саколку, каб памаліцца з тамтэйшымі вернікамі і супрасльскім епіскапам Грыгорыем. Потым ікона адправіцца на два дні ў Гусеў і ў некалькі іншых гарадоў Калінінградскай вобласці, скуль вернецца на месца свайго сталага прабывання ў далёкую Казаччыну. У нас паўстае асаблівая сувязь з аўгустоўскай царквой. Гэта дзякуючы пабудове новага сабора ў гонар загінуўшых у Першую сусветную вайну. Памяць аб гэтай частцы гісторыі доўгія гады ў нашай краіне не існавала, яе ацэньвалі як імперыялістычную, крываваю і нікому непатрэбную. Там усё ж такі паміралі рускія людзі. Цяпер справы пайшлі другім напрамкам. Навукоўцы кажуць, што вайна была непазбежнай, раней ці пазней мусіла адбыцца. У традыцыі Праваслаўнай царквы заведзена будаваць храмы ў гонар прапаўшых на войнах за веру, цара і народ. Для прыкладу, найвялікшая царква Масквы Хрыста Збавіцеля паўстала ў гонар загінуўшых у вайне 1812 года. Царква Васіля Блажэннага на Чырвонай Плошчы прысвечана казанскаму паходу цара Івана IV. Аказалася, што людзям, якія прапалі ў 1914 годзе, дагэтуль не быў узведзены аніводзін храм. Таму мы рашылі зрабіць гэтае ў Гусеве, тым больш што адміністрацыя горада выйшла нам насустрач і царква будзе стаяць у самым яго цэнтры, на вялікай пляцоўцы. Галоўны прастол сабора будзе ўспамінам Усіх Святых. Два астатнія прысвецім цару Мікалаю, галоўнакамандуючаму рускай арміяй і менавіта Аўгустоўскай іконе Божай Маці. Такім чынам былы нямецкі горад памяняем у культурным плане на рускі. Па-мойму, калі рускі чалавек прыехаў з Тамбова ці Кастрамы і палажыў там сваю галаву, яго там пахавалі, то гэтая зямля ўжо руская. Таму Калінінградчыну спакойна можам называць не Усходнімі Прусамі, а рускай зямлёй. Ікона, якую мы тут прывезлі, канчаткова вернецца ў Валгаградскую епархію, паколькі сведка аўгустоўскага з'яўлення быў манахам тамтэйшага Крэменска-Вазнясенскага манастыра. Там яе месца.

— У нас ёсць сяло, — кажа настаяцель згаданага манастыра айцец Савін, — з сучасным названнем хутар Клецкая Пошта. Сялянкі ад удзячнасці, што іх казакі вярнуліся цэлымі і здаровымі з вайны, папрасілі напісаць гэтае цудоўнае Багародзічнае выяўленне. Яго ўшаноўвалі ў Валгаградскай вобласці. Самае важнае, што ў цяжкі ваенны і пасляваенны час ікона не загубілася, засталася непарушнай. Усё дзеецца па Божай волі. У пачатку 2000-х гадоў адзін бацюшка з горада Фролава рашыў перадаць гэты абраз нашаму манастыру і цяпер мы ім апякуемся як галоўнай святыняй. Крэменска-Вазнясенскі манастыр знаходзіцца на беразе ракі Дон. Манастыру трыста гадоў. Ён невялікі, на сёння нас усяго шасцёра манахаў. Да нядаўна дзяліў лёс большасці расейскіх цэркваў, будучы вельмі знішчаным і разбураным. Чаго там не было: і дзіцячая калонія, і туберкулёзны дыспансер, і ўсяго, усяго... У дзевяностыя гады манастырскія руіны аддалі Царкве і мы цяпер яго аднаўляем. Месца ў нас вельмі глухое, цяжка туды даехаць, няма сапраўднай дарогі, таму дабрацца можна толькі позняй вясной, летам і восенню. Цяпер будуем дом пілігрыма, каб людзям, якія хочуць нас наведаць, было дзе затрымацца і пераначаваць. Найбольш іх з'язджаецца 14 верасня, на свята Аўгустоўскай іконы Божай Маці, якое афіцыйна было пацверджана ў 2008 годзе патрыярхам Алексіем. У нас тады служыцца боская літургія, адбываецца хрэсны ход і трапеза для ўсіх. Няважна колькі людзей, сто ці дзвесце, усе павінны быць сытымі у духоўным і цялесным плане. Мы асабліва ўшаноўваем абраз Аўгустоўскай Божай Маці, таму што ён з нашай роднай Казаччыны. Сяло, у якім яго напісалі, знаходзіцца семдзесят кіламетраў ад манастыра. Раз у год мы перадаем туды нашую ікону. Там таксама праводзяцца хрэсныя ходы і спецыяльныя маленні. Самым важным для іконы з'яўляецца яе шанаванне ў народзе, а яно якраз пашыраецца і ўзмацняецца. Людзі прыязджаюць, моляцца і за гэта слава Богу. Ёсць і копіі Аўгустоўскай іконы. Адна з іх знаходзіцца у маскоўскім храме Хрыста Збавіцеля. Маці Божая дапамагае і аб'ядноўвае. Хто б падумаў, што праз сто гадоў мы з'явімся сюды і будзем супольна маліцца перад Яе іконай. У час гэтага паломніцтва ў нас паяўляліся шматлікія праблемы, паколькі любая Божая справа звязаная з безупыннымі складанасцямі. Нябачнай Божай Рукой усе яны вырашаліся, Бог нас суправаджаў. Дзякуючы супольным малітвам мы можам сёння прылажыцца да гэтай вялікай святыні і падзякаваць Богу, што ў нас усё паспяхова адбылося. Для мяне вялікі гонар пабываць у Аўгустове. Я тут адчуваю сябе быццам не выехаў з Расеі. Дух малітоўнага аб'яднання ёсць усюды, між намі мяма ніякіх граніц і падзелаў. Дзякуючы малітве і царкоўнасці мы гэта пераадольваем. Слава Богу за ўсё.

Валя МЯДЗВЕДЗЬ

## Чаму

*Скажы ты мне, мой сумны, сумны лёс,*
*чом жа так вельмі сумна, сумна мне?*
*Скажы ты, чом баліць мая душа*
*і чом усю ноч у акне сяджу адна?*

*А вецер ціха дзерава хітае*
*і ён сказаці тожа хоча мне,*
*чаму так горка плачу я адная,*
*чаму так кепскі, кепскі маю лёс?*

*Чаму не маю чым я весяліцца*
*і чом баліць так бедная душа?*
*І толькі вецер ведае і знае,*
*чаму па ночах я не сплю адна.*

*Чаму так мала сонца на рассвеце*
*і толькі чорны хмары нада мной?*
*Чаму так цяжка жыці мне на свеце*
*і па жыцці ісці заўжды адной?*

*Уціх ужо вецер, дрэвамі ён і не хітае,*
*пытанне ў травах закаціў пакос:*
*Чаму так я такая нешчаслівая,*
*чаму так цяжкі мой праклятый лёс?*

## Якія людзі

*Выйшаў месяц над ракою,*
*плыве вольна над вадою,*
*свеціць ясна там дзе расце ў полі лён,*
*і не можа паняць ён:*
*Што то сталася з людзямі,*
*што зрабіліся звярамі,*
*нібы сябру сябра кахае,*
*а памалу падгрызае*
*то за руку, то за спіну,*
*каб знайсці якую віну,*
*каб зрабіўся ён убогі*
*і каб урэд пайшоў аж у ногі,*
*каб быў няверны і напіўся*
*і з радзінай пасварыўся,*
*каб ні з кім не сябраваўся*
*і сядзець у хаце сваёй баяўся,*
*каб не мог узляцець ён увысь,*
*толькі ўсё ішоў на ніз!..*

## Пара

*Захацеў раз сабе хлопец са старой бабай ажаніцца. Ну а што яна старая, ён не мог ніяк забыцца. Захацелась старой бабе маладога хлопца ўзяць: ён прыгожы і вясёлы, – думала, – будзе ён кахаць. А ён з гэтаю старухай сам не знае што зрабіць – ці пад стол яе ўвапхнуці, ці пад печ яе ўсадзіць, а з прыгожаю дзяўчынай сваё жыццё ўлажыць.*

*Узяў прыгожую дзяўчыну, жонку ён пусціў у няславу, не хацеў яе любіці, брыдкую і старую. Ды прыгожая дзяўчына толькі грошыкі кахала! Колькі ён ёй не даваў, усё было ёй замала. Раззлаваўся гэты хлопец і ад злосці стаўся бледны, бо ўсе грошы ёй аддаў і застаўся зусім бедны. Тады прыгожая дзяўчына кахаць яго не стала: не хацела быць убога і знайшла сабе другога.*

*Яго жонка із-пад печы рэдка выглядала і хоць старая яна, мужа надалей кахала. І тут хлопец зразумеў, што за шчасце меў у хаце і стаў жоначку старую із-пад печы выцягаці. Ды тут жонка зразумела, што ён на свеце не адзін, і хоць шчэ яго кахала, адышла сабе з другім. І задумаўся той хлопец: што яму цяпер рабіць? Ці старых баб кахаць, ці маладых дзяўчат любіць?!*

*Ой ты, бабачка, старуха, яшчэ хочаш ты кахацца, хочаш быці маладою, ну і з хлопцам сябравацца! У тваім узросце хопіць марыць, не кахацца! І куды табе ўжо, баба, яшчэ замуж выбірацца! Трэба з унукаў весяліцца, рана Богу памаліцца, пасмяяцца, смачна з'есці і ля Радыё Рацыя засесці. І паліць на голаў вядро зімнае вады, каб ахаладзіла мазгі ад любві!*

Тэкст і фота Віктара БУРЫ

# „ЦАГЛІНКІ" ў Ожышы



„Цаглінкі" са сваімі паклоннікамі. На кукішках — злева: Крыстына і Тадэвуш Мянткевічы з Гіжыцка, а справа: Эва Фалькоўская і Альжбета Янцэвіч з Варшавы. Ожыш, 8 ліпеня 2012 г.

На VIII Ожышскія фальклорныя сустрэчы, якія адбыліся 8 ліпеня г.г., было адабраных ажно 66 калектываў. Амаль усе прадстаўлялі польскі фалькор. Выключэннем былі два беларускія калектывы — „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова. Усе калектывы абавязвала адно правіла — праспяваць дзве песні. Вядучы мерапрыемства Кшыштаф Шубзда з Беластока, быццам добрая фея пры дапамозе чароўнай палачкі, мяняў адна за адной песні і калектывы. Публіцы не давялося сумаваць. У перапынках паміж выступленнямі калектываў гледачоў забаўлялі гарманісты-педалісты, якія выконвалі куплеты ў танцавальным стылі.

Пасля агляду адбылося падвядзенне вынікаў. Сярод лаўрэатаў апынуліся „Цаглінкі", якія атрымалі вылучэнне і грашовую ўзнагароду. Усе ўдзельнікі атрымалі дыпломы. Члены калектыву „Цаглінкі" былі ўзрадаваны, што іхняя далёкая паездка аказалася паспяховай. Яны радаваліся, калі ў шматлюднай публіцы беларускімі песнямі выклікалі шквал апладысментаў. Мой субяседнік, член калектыву, сказаў: „Мы паехалі не толькі паказацца, мы традыцыйна паехалі па ўзнагароду".

Цёплыя словы ў адрас „Цаглінак" выказалі Эва Фалькоўская і Альжбета Янцэвіч з Варшавы:

— Мы адпачываем у ваколіцах Ожыша і ахвотна прыехалі на фальклорныя сустрэчы. Вельмі прыемна нас уразіў калектыў „Цаглінкі". Захапіў ён нас сваім выступленнем, строямі і сардэчнасцю. Мы захопленыя і ўзрушаныя.

Крыстына і Тадэвуш Мянткевічы з Гіжыцка заўважылі:

— Сярод шматлікіх калектываў асабліва спадабаліся нам „Цаглінкі" і „Васілёчкі", а таксама маладыя выканаўцы з Элка.

Гарманіст-педаліст Уладыслаў Даўнаровіч, кіраўнік калектыву „Зацішукі" з Вэнгажэва сказаў:

— Ваш калектыў цудоўны, мілы, прыгожыя ў вас строі. Рэпертуар добра падабраны, песні выкананыя на высокім мастацкім узроўні. Наш калектыў хоча наладзіць з „Цаглінкамі" супрацоўніцтва.

Старшы інструктар па мастацкіх справах Дома культуры ў Ожышы Багуслаў Трупач пацікавіўся ці мы задаволеныя прыездам на фальклорныя сустрэчы. Я адказаў станоўча. Мы былі задаволены святочнай атмасферай мерапрыемства, узорнай яго арганізацыяй. Уразіла нас таксама маляўнічае месца, у якім праходзілі VIII Ожышскія фальклорныя сустрэчы. „Цаглінкі" сардэчна ўдзячныя арганізатарам з Дома культуры за сардэчны прыём.

Дадам яшчэ, што пасля вяртання на рукі войта Нараўчанскай гміны прыйшла падзяка ад дырэктар Дома культуры ў Ожышы Бэаты Шыманкевіч, якая напісала, між іншым: „Калектыў ахвяраваў ожышскай публіцы дар культуры пагранічча — мудрае музычнае відовішча — дапрацаванае ў мастацкім плане і знакаміта выкананае. (...) Прадстаўлены калектывам рэпертуар сваёй унікальнасцю, багаццем форм і незвычайным хараством спрычыніўся да таго, што кожны з нас стаў спадчыннікам найлепшых каштоўнасцей народнай культуры".





## Аўтарская сустрэча Т. Кунцэвіча

29 ліпеня г.г. у адрамантаванай святліцы ў Міхнаўцы (гэтая вёска па-суседску з Лешукамі) у Нараўчанскай гміне адбыўся аўтарскі вечар Тадэвуша Кунцэвіча — паэта з Лешукоў. Арганізавала яго Таварыства жыхароў „Ятрышнік", якое мае сваю сядзібу ў Міхнаўцы. Сустрэчу вяла Альжбета Кунцэвіч, старшыня „Ятрышніка". Прыйшлі маладыя і старэйшыя вяскоўцы.

— Я пачаў пісаць яшчэ ў Пачатковай школе ў Лешуках, — сказаў у час сустрэчы Т. Кунцэвіч. — Аднойчы ў школе адбылася сутрэча з паэтам Алесем Барскім з недалёкіх ад нашай вёскі Бандароў. Паэзія Барскага мяне вельмі ўразіла. Я прачытаў усе яго кніжкі. Пачаў сам пісаць і адзін з маіх вершаў прысвяціў Алесю Барскаму.

Падчас аўтарскай сустрэчы Т. Кунцэвіч чытаў вершы прысвечаныя Нараўчанскай гміне і архіепіскапу Мірану ды творы надрукаваныя ў „Ніве", між іншым „Мама" і „Памяці Тамары Саланевіч" („Ніва" № 4 ад 22 студзеня 2012 года), дэкламаваў творы сатырычнага характару, а таксам рэфлексійныя і жартоўныя вершы. Ляшуцкі паэт піша на беларускай літаратурнай мове, але карыстаецца і нараўчанскім дыялектам.

Пад уражаннем ад вершаў Т. Кунцэвіча былі ўсе прысутныя на сустрэчы. А Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова набраў вялікай ахвоты прачытаць нешта са сваёй творчасці. І ён прачытаў некалькі сваіх вершаў. Затым пачалася дыскусія.

Варта дадаць, што неўзабаве будзе выдадзена кніжка вершаў Тадэвуша Кунцэвіча пад загалоўкам „Падляшша — мая старонка".

На заканчэнне літаратурнай вечарыны былі шчырыя словы падзякі паэту ад старшыні Таварыства „Ятрышнік" і цудоўныя кветкі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Мікалай ЛУК'ЯНЮК

## Як пазнаваліся

Калі ўзнікала Беларускае грамадска-культурнае таварыства, па вёсках і гарадах Беласточчыны пачалі арганізавацца беларускія гурткі і калектывы; славутая „Лявоніха" і цяпер многім гучыць у сэрцах. У Беластоку па вуліцы Варшаўскай, 11, гучна бурліла беларускае культурнае жыццё. Там спатыкалася беларуская моладзь каб па-свойму пагутарыць, пазнаёміцца з другой палавінкай. Паралельна з'явілася „Ніва", дзе на працу стаў Міхась Хмялеўскі. Ён таксама актыўна працаваў і ў БГКТ з самага пачатку. І колькі пар маладых людзей ён пазнаёміў, якія пасля павянчаліся і ў згодзе жывуць па сённяшні дзень.

За Міхасём Хмялеўскім замацавалася мянушка „Сват". Многія пары па сённяшні дзень удзячныя яму за ягоныя ўдалыя зводзіны з другой палавінкай. А сколькім дзяўчынам ён аформіў працу ў камбінаце „Фасты", за якую было яму многа падзякі.

Цяпер на старонках „Нівы" ніколі не ўспамінаецца аб працы клуба БГКТ па вуліцы Варшаўскай у Беластоку. Ці можа старшыня БГКТ Ян Сычэўскі ізаляваўся ад усіх беларускіх арганізацый і сядзіць нікому недаступны быццам у жалезнай клетцы і арганізуе толькі беларускія фестывалі па гмінах і вёсках? Ці можа ўсе беларускія арганізацыі адхіліліся ад Яна Сычэўскага? Гэтага я вельмі цікавы.



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Надзея са Слоі

Са спадарыняй Надзей Кулікоўскай са Слоі сустрэліся мы ў Супраслі, на аўтобусным прыпынку на пляцы Касцюшкі. Я з традыцыйным рукзачком, яна з торбай (ехала да сяброўкі), а раптам пачалі мы размову пра паэзію. Надзея Кулікоўская, 1925 года нараджэння, цяпер жыхарка Слоі, паэтэса і рукадзельніца, ужо на пенсіі. За чарговую кнігу, сёлетняга выдання, дзякуе спонсарам — бурмістру Супрасля Радаславу Дабравольскаму, войту Шудзялаўскай гміны Мар'юшу Чабану, Юрыю Вільчэўскаму з Белаусаў і пану Лешку Альховіку з фірмы „Агропаль" у Шудзялава. І чытачам дзякуе, да якіх трапіць гэтая сціплая кніжка — „З жыцця ўзятае". Верш з простага жыцця: *рыфмаваны ці прозай пісаны — каторы лепшы верш? Хтось разумна адказаў: той, што мае сэнс.* Пра што піша? *Чаго ад жыцця нам трэба? Трошачкі сонца, зямлі, паветра чыстага, над галовамі неба.* Піша пра прыгажосць роднай зямлі ў кругавароце пораў года, радасці жанчыны і маці, турботы пажылога чалавека. Глядзіць на нас жанчына са шчырым тварам, добра выглядаючая як на свае гады, бо ж *ад наймалодшых гадоў не ўжывала я ніякага бяліла, апрача паветра і сонца, чыстай вады і мыла.* І па тое, што найбольш трымае жыццё: надзея, вера і любоў.

Успамінае: не было нам суджана...

— У вёску Лазні часта заглядалі няпрошаныя госці, жаўнеры АК, партызаны, але і ўбэкі, і розныя банды. Было гэта пасля вайны. Калега само жаніўся і запрасіў моладзь з вёскі на кавалерскую вечарынку. Тады ў нас было шмат моладзі. Забава працягвалася, ды раптам уварвалася нейкая банда, разагнала кампанію. Дзяўчатам загадалі ісці дахаты, а хлопцаў распранулі да кальсонаў. Музыканты былі са Студзянак, таму каб вярнуцца дахаты — мусілі пазычыць адзенне. Было крыху страху, а пасля і смеху. Саветы таксама часта прыходзілі ў нашу вёску з гармошкай і арганізавалі патанцоўкі, ды было ўсё ў парадку.

Аднойчы ў нядзелю раніцай прыйшлі ў вёску акаўцы. Затрымалі двух хлопцаў, каб паказалі ім, дзе ў дамах ёсць дзеўкі і там заказалі па два абеды. І мяне гэты гонар сустрэў.

Памятаю, зварыла я бульбу, усмажыла яйкі на саланіне, зрабіла салат з цыбулькай і смятанай. Рукі і ногі дрыжэлі мне ад страху. Калі б у той час у Лазні ўвайшлі ўбэкі, о то было б весела! На шчасце, усё добра кончылася. Жаўнеры паабедалі, падзякавалі і адышлі. Толькі адыходзячы адзін паручнік спытаўся, ці ў каго што не прапала. Праз нейкі час зноў прыйшлі, у гэты раз зрабілі забаву ў млынара ў стадоле на канцы вёскі. Запрошаны былі ўсе дзяўчаты без хлопцаў. Мы з сяброўкай сядзелі ў маім пакоі, ды зараз прыйшло двух жаўнераў і сталі распытваць маю маму аб нас. Хтось заўважыў, што няма нас на забаве і таму быў той візіт. Мая мама папрасіла ў нас, каб усё ж мы пайшлі на танцы, каб не было якойся прыкрасці. Мы выйшлі з пакоя, ды сказалі, што вернемся да захаду сонца. Усе гжэчна гулялі. Калі схацелі мы ісці дахаты, правялі нас дадому.

У той дзень праз Суражкова праязджалі саветы. Праз ларнет прыкмецілі акаўцаў. Аддзяляў нас ад іх кіламетр. Хацелі страляць. Аднак людзі ўпрасілі іх, каб гэтага не рабілі, бо маглі б забіць нявінных дзяўчат. Абышлося ў той дзень без вайны. Але на другі дзень саветы прыехалі ў Лазні. Адзін з іх пачаў да мяне чапляцца, што я з бандытам танцавала. Я сказала яму, што і з ім затанцую, калі ўмее, дык адчапіўся.

Аднойчы ўвечары я вярнулася ад сяброўкі. Была ўжо дзевятая вечара, і я адразу лягла спаць. Было лета, дык было яшчэ відна. Мая мама яшчэ ўпраўлялася на кухні, як у дзверы хтосьці пастукаў. Мама адчыніла дзверы, увайшоў акавец.

— Gdzie jest córka? — спытаўся. — Chcę z nią zamienić parę słów.

Увайшоў у пакой, а я яшчэ не паспела выскачыць з ложка. Я накрылася пярынай пад самую бараду і ляжу. Мужчына прысеў на беразе ложка і кажа:

— Jest pani najładniejszą dziewczyną we wsi.

— У нас многа прыгожых дзяўчат! Вы, відаць, памыліліся.

— Nie, nie pomyliłem się. Widziałem panią, kiedy wracała od koleżanki i miała na sobie jasną sukienkę w kwiatki.

Відаць, прыглядаўся мне крадком. Меў на шыі залаты ланцужок з зачыненым сэрцайкам, з Багародзіцай усярэдзіне. Сказаў, што падараваў бы мне яго, ды гэта яго талісман. Дала яго яму ягоная мама на шчасце, калі рушыў у лес. Я падзякавала падпаручніку і сказала, што і так не прыняла б падарунка — бо я ж яго не ведаю, а ён мяне. А ён сказаў мне, каб я яго чакала. Калі ўсё добра скончыцца, прыедзе за мною. На развітанне заспяваў мне фрагмент песенькі „Z bólem serca żegnam cię" і пайшоў. Не прымала я гэтага ўсур'ёз, бо гэта ж быў стурбаваны за спакоем жаўнер. Я ведала, што тыя жаўнеры з горада Супрасль, і больш пра іх нічога. Праз нейкі час мы ўсёй сям'ёй з'ехалі ў Супрасль. Там я пазнаёмілася з хлопцам, выйшла за яго замуж. Таго жаўнера сцерла я са сваёй памяці.

Калі мне было ўжо за трыццаць, разбалела мне нага. Паехала я ў Беласток да лекара. У паліклініцы насупраць мяне сядзеў чалавек і прыглядаўся мне з увагай. І прызнаўся мне, што гэта ён пакахаў быў мяне, ды не стрымаў слова. Убачыў мой шлюбны пярсцёнак і прызнаўся, што і ён ажаніўся, бо дзяўчына з яго мясцовасці „не давала яму спакою".

— Ну, што ж, такое жыццё, — сказала я абыякава. Ён жанаты, я шчаслівая жонка. Быў такі час, што як мячом перарэзаў чалавечыя лёсы.

Калі мне было ўжо за 70, пайшла я з мужам на вечарынку пенсіянераў. Зайгралі танга, адзін пенсіянер запрасіў мяне да танца. Танцаваў ён вельмі прыгожа, лёгка, і я сказала яму пра гэта. А ён прызнаўся, што была я калісь прыгожай дзяўчынай і ён пакахаў мяне. Я задумалася: можа сустракаліся мы дзе ў касцёле? Старэча падзякаваў мне за танец і адвёў да майго мужа. Я нічога не ўспамінала мужу пра гэтую размову — быў зайздросны нават за маё мінулае. Калі памёр мой муж і той чалавек, я сустрэла яго жонку і падарыла ёй свой зборнік вершаў. Яна прызналася, што яе муж любіў чытаць мае вершы, купляў мае кнігі. Напэўна, не сказаў жонцы пра той момант у Лазнях, калі прызнаўся мне быў у каханні. Калісьці расказала я сваёй знаёмай аб тым моманце ў маёй роднай вёсцы ў той трывожны пасляваенны час. Сказала мне яна, што ведае яго добра і сапраўды той чалавек быў у АК. Зараз пасля таго аднойчы ноччу ён мне прысніўся. Падышоў да мяне без слова, пацалаваў і адышоў. Быццам падзякаваў мне, што я пра яго памятаю...

## Беларускі шлюб у Белавежы

У час вяселля часта здараюцца арыгінальныя цікавыя народныя элементы. Маладыя хочуць нейкім чынам падкрэсліць сваю тоеснасць. Часам замест традыцыйнага вясельнага торта маладая пара надзяляе сваіх гасцей традыцыйным беларускім караваем — дражджавым цестам з прыгожымі аздобамі. Часам пачуем беларускія песні. Нашыя знаёмыя запрасілі нават жанчын з ансамбля „Арэшкі" з Арэшкава, каб упрыгожылі іхняе святкаванне беларускімі спевамі. Іншыя дзякуючы сваім бацькам на беларускай мове. А, напрыклад, у час вяселля ў Владаве, на якім я прысутнічала, мяне здзівіла частка ўрачыстасці, у час якой спяваліся патрыятычныя польскія песні, у тым ліку балады Яцка Качмарскага. Аднак знайсці беларускія акцэнты ў час царкоўнага шлюбу намнога цяжэй.

Калі ў шлюб уступае пара людзей рознага веравызнання, а чын вянчання здзяйсняецца ў праваслаўнай царкве ў Польшчы, пачуем кароткія фрагменты на польскай мове. Часам хор праспявае *Kyrie eleison*, можа нават часам крыху неахвотна... Аднак апошнім часам мяне захапіла нешта зусім іншае. 15 ліпеня ў белавежскай царкве з'явілася стройная маладая пара. Дзяўчына замест традыцыйнага вэлюма мела на галаве толькі вянок са свежых кветак, якія выглядалі нават крыху на польныя, доўгія светлыя валасы сплывалі свабодна па плячах. У руцэ трымала букет з такіх жа кветак. Хлопец замест элегантнай белай кашулі і матылька ці гальштука, апрануў ільняную кашулю з беларускай вышыўкай. Гэта быў толькі пачатак сюрпрызаў. Калі пачалася шлюбная ўрачыстасць і святар пачаў чын заручынаў, мяне захапіла мілагучная беларуская мова. Настаяцель белавежскай царквы прачытаў па-беларуску таксама чын вянчання. Мяне вельмі цешыць тое, што хаця фрагменты праваслаўных багаслужэнняў чытаюцца на бліжэйшай людзям мове чым старажытнацаркоўнаславянская. Маладая пара не з'яўлялася мясцовай — яны прыехалі вянчацца ў Белавежу з Бельска-Падляшскага ды Беластока.

Такое прыемнае здарэнне напомніла мне зусім чароўнае вяселле маіх сяброў — беларусаў-эмігрантаў, якія жывуць у Варшаве. На ўрачыстасць у ЗАГС у Нараўцы прыехалі сем'і маладых з Беларусі. Нарачоныя апранулі беларускія народныя касцюмы. Вяселле адбывалася на паветры. Для мяне вялікім атракцыёнам была музыка. Вясельным ансамблем аказаўся „Стары Ольса". Члены гурту заахвочвалі да танцаў. Агрэсца было можна ля вогнішча. На заканчэнне маладая пара падпаліла ды пусціла ў паветра ліхтары шчасця.

Пакуль што беларускія акцэнты ў час шлюбнай урачыстасці здараюцца рэдка. У час вяселля беларускасць сустрэнем часцей. Аднак важнае тое, каб людзі не забывалі сваіх каранёў і помнілі пра сваю спадчыну ў час важных сямейных святкаванняў.

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**



Карціна Дар'юша Вашчынскага



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Ганны Кандрацюк



# Менш фаст-фудаў

Сёння людзі жывуць вельмі хутка. У сваім спешным жыцці яны не маюць часу на галоўнае — на яду. А гэта вялікая памылка.

Усе ведаем, што калі чалавек працуе, у яго няма часу думаць пра яду. З прычыны недахопу часу мы пачынаем есці так званыя фаст-фуды, значыць, хуткую яду. Хоць гэта шкодныя для арганізма стравы, яны смачныя, таму што ў іх многа кансервантаў, якія паляпшаюць смак і пах яды. Яны спакушаюць таксама прыгожым выглядам.

У мінулым, перш за ўсё на вёсцы, людзі ведалі, што спажываюць. Елі ўсё, што вырасла ў іх агародзе, садку, полі, лесе. Самі рыхтавалі яду. Ад такой яды яны менш хварэлі. Цяпер мы не ведаем, што на самой справе спажываем! Ніхто не чытае састаў на пакецiку, у які прыгожа запакаваная яда. А пасля здзіўляемся... што ў сям'і або ў асяроддзі ўсё больш дыябетыкаў і тоўстых людзей. Праўда, гэтыя хваробы не адно ад нездаровай яды, прычыны бываюць розныя. Паводле мяне, трэба зрабіць усё, каб есці як найменш фаст-фудаў і як найбольш садавіны і агародніны з вядомых крыніц. Людзі звычайна баяцца есці непамытую агародніну. Нашы продкі не звярталі на гэта вялікай увагі, ведалі аднак, што можа быць усярэдзіне. Яны ж самі сеялі або вырошчвалі плады. А цяпер найбольш пажаданыя чырвоныя і гладкія яблыкі ці грушы. І гэта памылка. Такі плод напэўна нашпігаваны кансервантамі!

— Калісь людзі жылі блізка прыроды, — кажа Барыс Казлоўскі з пансіяната Бора-Здруй, — а сучасныя гарадскія людзі не маюць магчымасці назіраць за прыродай.

Дык што тады рабіць? Мы, маладыя, павінны шанаваць прыроду і старацца часткова думаць як нашыя продкі, бо хаця яны не мелі кніжнай адукацыі, назіралі жыццё ў прыродзе. Думаю, што на пачатак мы самі павінны падрыхтаваць „свойскую ежу", каб яна больш нам смакавала...

**Аляксандра Варшыцкая,**
*„Учора, сёння, заўтра",*
*III клас гімназіі КШ з ДНБМ*
*у Бельску-Падляшскім*

## Вершы Віктара Шведа

### Лянота

— Скажы мне, мілы Лёня,
Што будзеш рабіць сёння?
— Не маю я ахвоты
Да кожнае работы.

— Ты быў таксама ўчора
Да працы надта хворы.
— Ды хоць заняткаў многа,
Я не зраблю нічога.

### Небяспечны ўзор

Настаўнік на табліцы
Падаў узор-тайніцу
І дзетак азадачыў:
— Што ўзор хімічны значыць?

— На языку ўжо маю
Узор, — сказала Рая.
— Дык выплюнь, дзетка, хутка
Кіслату-атрутку!

## Гумар Гумар Гумар

Настаўніца пытае ў дзяцей:
— Што вам найбольш спадабалася ў музеі?
— Тое, як Янка зляцеў з лесвіцы.

* * *

Маці пытае ў Яся:
— А калі ж ты паправіш ацэнкі па матэматыцы?
— Тады, калі настаўніца адыдзе ад журнала.

* * *

— Чаму бландзінка кружыць навокал ванны?
— Таму, што яна шукае ўваход!

*(„Наша Суполка")*

Фота Ганны Кандрацюк





## Мая сям'я

Мая сям'я — польска-беларуская. Мая маці нарадзілася ў Рэспубліцы Беларусь, а бацька ў Польшчы. За мяжою, у Брэсце, жыве мой дзядуля. Я і мае малодшыя браты Томэк і Шымэк раз у год з бацькамі ездзім у Беларусь. Мы вельмі любім гэтыя экскурсіі. У час паездак я плаваў суднам, круціўся ў рапушках.

У Беларусі я еў вату, піў хлебны квас і вельмі смачныя цукеркі.

Мы з Томкам ужо ходзім на беларускую мову і вельмі любім гэтыя ўрокі.

***Янэк Алемпіюк,***
***ПШ у Чаромсе***

# У журналіста няма вакацый!

*З Яўгенам Вапам, галоўным рэдактарам „Нівы” і Радыё Рацыя, старшынёй Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай гутарыць рэдакцыя „Нашай суполкі”:*

*НС: — Як пачалася Ваша прыгода з журналістыкай?*

**ЯВ:** — Гэтая прыгода пачалася тады, калі я вучыўся ў ліцэі ў Гайнаўцы. Я разам з сябрамі пісаў тэксты пра нашу школу і публікавалі мы іх у школьнай газетцы. Хачу вам сказаць, што гэта былі допісы на беларускай мове, і мы самі іх дамагаліся.

*НС: — А ці цяжка быць журналістам?*



Фота Ганны Кандрацюк

**ЯВ:** — Калі хто любіць сваю працу, то нават калі яна цяжкая атрымае шмат задавальнення. У іншым выпадку вельмі цяжка працаваць журналістам. Трэба быць цікавым свету і тады ўсё атрымаецца.

*НС: — Ці праца журналіста патрабуе шмат ахвярнасці?*

**ЯВ:** — У журналіста няма выхадных, вакацый, ён увесь час працуе. Праўда, адны пішуць раніцай, іншыя пасля поўдня, хто яшчэ вечарам або ноччу. Трэба таксама многа чытаць, бо гэта дапаўненне творчага працэсу. Журналіст чытае, што напісалі іншыя, каб звярнуцца да гэтага і не паўтараць таго, што хтосьці ўжо напісаў.

*НС: — Якая праца цяжэйшая — на радыё ці ў газеце?*

**ЯВ:** — Напэўна больш нерваў на радыё, бо яно працуе ўвесь час, кругласутачна. Там няма перапынку. У штотыднёвіку працэс менш нервовы, усе артыкулы і допісы можна прачытаць некалькі разоў, выправіць памылкі, памяняць словы. На радыё калі што скажаш не так, усе гэта пачуюць.

*НС: — За што Вы любіце сваю працу?*

**ЯВ:** — Перш за ўсё за тое, што маю магчымасць працаваць з творчымі, вынаходлівымі людзьмі. Поспех у рэдакцыі — гэта праца ў групе, атмасфера. Важна, каб людзі супрацоўнічалі, дапаўнялі адзін аднаго. Цаню таксама за тое, што магу сустракаць новых, вартасных і цікавых людзей.

*НС: — Ці Вы ад пачатку думалі пра журналістыку?*

**ЯВ:** — Восем гадоў, адразу пасля ўніверсітэта я працаваў настаўнікам у Гайнаўскім белліцэі. Там я таксама ладзіў сустрэчы з творчымі людзьмі. Рэдактарам „Нівы” стаў я ў 2004 годзе.

*НС: — Калі ў Вас паявілася думка, каб працаваць у карысць беларускай меншасці?*

**ЯВ:** — Нацыянальную свядомасць перадалі мне бацькі. У хаце і ў асяроддзі, адкуль я выйшаў, усе размаўлялі па-беларуску. Я сам хацеў вучыцца роднай мове, пайшоў у беларускі ліцэй, а пасля вярнуўся там як настаўнік гісторыі. Ад маладых гадоў займаўся таксама грамадскай дзейнасцю ў карысць захавання беларускасці. Гэта я сам разумеў, ніхто мяне да гэтага не прымушаў і не намаўляў. Так гаварыла сумленне, падказвала душа.

*НС: — Хто, паводле Вас, пераможа на Еўра-2012?*

**ЯВ:** — Думаю, што Нямеччына, бо ў іх добрая абарона і яны шмат трэніруюць.

*НС: — Дзякуем за размову.*

**ЯВ:** — Дзякую таксама і чакаю вашых артыкулаў з Сустрэч „Зоркі”.

# Музыка з кайфам

## Беларускі дэсант на чарнаморскі пляж!

Адзіны такі пляж, адзіны такі фестываль. Дзесяты юбілейны выпуск фестывалю „Джаз Кактэбель” (Jazz Koktebel) пройдзе ў Кактэбелі, а яго дні разыходзіцца будуць пад беларускай шыльдай.

Пра крымскі пасёлак Кактэбель і яго знамянальную метку — джаз-фестываль, я ўжо згадвала. Але сёлета гэты далёкі нам фестываль хачу ўспомніць таму, што юбілей адзначацца там будзе ў прысутнасці блізкіх нам артыстаў. Можа не ўсе яны поўнасцю і абавязкова спяваюць па-беларуску, але нашай публіцы асацыююцца адназначна з родным, а да таго прадстаўляюць высокі мастацкі ўзровень беларускіх музычных прадукцый. Не застаецца нічога як толькі ганарыцца імі і расказаць, хто і сярод якіх іншых выканаўцаў на Чорным моры будзе прэзентавацца.




http://www.koktebel.info

Напэўна вялікую прыемнасць ад выступу на фестывалі будзе мець гурт „Серебряная свадьба”. Не так даўно паказаўся іх новы альбом „Laterna magica”. Фестываль — акуратнае месца і час на яго прамоцыю. Важнейшае аднак, што „Серебряная свадьба” пасля шматлікіх канцэртаў, тураў па розных краінах свету (на Падляшшы таксама не адзін раз выступалі) на Кактэбелі зайграюць перад гуртом „The Tiger Lillies” — легендай nouvelle chanson, жанрам, з якім ім па дарозе. Гэта падзея! Безумоўна трэба таксама падкрэсліць, што доказам вялікай перспектывы, якая адкрываецца перад гуртом „Morfe” будзе выступ на прэстыжным кактэбельскім фестывалі. „Morfe” ведаюць ужо слухачы розных краін свету, бо канцэртавалі яны хаця б у Польшчы ці Фінляндыі. За імі прэзентацыя дэбютнага альбома „Ziziaq”, а гэта зайсёды важны момант у кар'еры маладога гурту.

Галоўную фестывальную сцэну „Nu Jazz” адкрые ў пэўным сэнсе самы супярэчлівы, здаецца, альбом „Рабкор” гурту „Ляпіс Трубяцкой”. „Ляпісы” даказваць сваю вартасць не патрабуюць, але „Рабкор” — прынамсі ў канцэртным варыянце — крытыкаваць складана, бо гэта можа быць місія.

Кактэбель — далёка, але марыць пра адпачынак у фестывальнай атмасферы кожны мае права.

Фестываль сёлета пройдзе з 30.08 па 2.09. www.koktebel.info

**i_basovka@o2.pl**

# Каму ложак?

Хлопцы з нашага пакойчыка Пятро, Куба, Адам, Крыстыян і я, Максім, змагаліся за верхняе месца на двух'ярусным ложку. Каб спаць на гары, хлопцы прыдумалі спаборніцтва: хто найдаўжэй адаб'е на назе (быццам мяч) ключы ад дзвярэй. У ноч з 18 на 19 чэрвеня перамог Адам, але ён па-сяброўску аддаў сваё месца на ложку Пятру.



**Максім Фіёнік,**
*газета „Наша Суполка”, VI кл. КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*

# Польска-беларуская крыжаванка № 34

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 29:

Мяч, Ас, стол, голас, гулі, лось, ліпень, слой, лета, пах, падарунак, рада, Агатка, альт, дар. Пена, стол, мох, педаль, лета, гонар, гусь, урад, соль, нага, спадар, плакат, аса, ох, рай, брат.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Krew / Papryka | | Posag |
| Ekran / Ryż | | | | Pępek | | | |
| | | | Wiara / Polano | | | | |
| Nos | | Ryż / Zapach | | Lakier | | Tur | |
| Pałac | Smuga | | | | | | |
| Pępek | | | | | | Sum | |
| | Mor-szczuk | | | | Bierz! | | |
| | Pano-rama | | | | | | |
| | | | | | | | |

# Юбілейнае X «Ператоча»

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Сёлетнія юбілейныя X Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2012» былі прысвечаны перш за ўсё людзям Белавежскай пушчы, якія па абодвух баках мяжы працуюць у яе карысць. На мерапрыемстве, наладжаным 27 і 28 ліпеня ў Белавежы гайнаўскім фондам «Царкоўная музыка», з дапамогай Белавежскага нацыянальнага парку, Белавежскага асяродка культуры і белавежскага аддзялення Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства, з фінансавай падтрымкай між іншым Рэгіянальнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў у Беластоку, выступілі працаўнікі Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» з Рэспублікі Беларусь, якія спяваюць у калектыве «Пушчанскія музыкі» з Камянюкоў і трубачы, якія працуюць у Белавежскай пушчы з нашага боку мяжы. У час двухдзённага юбілею, наладжанага пад патранатам маршалка Падляшскага ваяводства, ужо традыцыйна прэзентаваліся песні і танцы характэрныя для культур нацыянальнасцей, якія ў мінулым насялялі Белавежскую пушчу і яе ваколле ды жывуць тут цяпер, аб чым напамінаў сабраным старшыня фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко, галоўны стваральнік «Ператоча». Мерапрыемства адкрыў старшыня Рады гміны ў Белавежы Уладзімір Валкавыцкі, які прывітаў сабраных ад імя войта, мясцовых радных і жыхароў Белавежы.



Першым выступіў белавежскі калектыў «Ручаёк»


Сярод публікі многа было дзетак і маладых сужонстваў

— Ператоча, гэта месца перад токам у *клуні*, на якім у мінулым на нашай тэрыторыі адбывалася культурнае жыццё, ладзіліся вяселлі, патанцоўкі і завязвалася сяброўства. Гэта сімвал адкрытасці нашых людзей на гасцей. «Ператоча» таксама адкрытае на разнародную публіку, — заявіў Мікола Бушко, вітаючы сабраных, сярод якіх вялікую частку састаўлялі турысты.

Непадалёк ад сцэны або за далей расстаўленымі сталамі можна было спаткаць таксама жыхароў Гайнаўкі і наваколля. Адны сядзелі далей ад сцэны за кавай, халоднымі напіткамі і гарачымі закускамі, іншыя хадзілі паміж прадаўцамі сувеніраў, цацак і ласункаў. Большасць сабраных сядзела і стаяла непадалёк ад сцэны, каб добра бачыць выступаючыя калектывы.

Першымі заспявалі белавежскія жанчыны і мужчыны з калектыву «Ручаёк». Запрэзентавалі яны перш за ўсё вядомыя нашаму насельніцтву беларускія песні.

— Гэта я пайшоў да нашага войта з прапановай стварыць у Белавежы калектыў. Войт адобрыў маю прапанову. Першы склад «Ручайка» абапіраўся ў галоўным на дзяўчат з матуральных класаў, якія хутка раз'ехаліся па свеце. Пасля ў нашым калектыве сталі спяваць бацькі гэтых дзяўчат і іншыя асобы. З першага складу асталіся толькі тры дзяўчыны. Зараз у «Ручайку» спяваюць мамы з дочкамі і таму часткова захоўваем сямейны характар. Дзейнічаем ад мая 2009 года, пастаянна выступаем на фестывалі «Беларуская песня» і на «Купаллі» ў Белавежы. Спяваем многа вядомых у нас беларускіх песень, але таксама развучваем песні менш нам вядомыя, — сказаў музычны кіраўнік белавежскага гурту Марк Зубрыцкі і пахваліў «Ператоча»: — Добра, што ладзіцца ў нас такое разнароднае мерапрыемства, якое цікавіць не толькі мясцовую публіку, але і турыстаў.

У час X «Ператоча» былі падведзены вынікі мерапрыемства, пачынаючы з 2003 года. Аказалася, што за гэты час выступіла каля 120 калектываў і 1500 спевакоў і танцораў.

Сёлета фальклорны калектыў «Пушчанскія музыкі» з Камянюкоў выступіў у супольнай музычнай праграме з узорным калектывам эстраднага танца «Непаседы» з вёскі Расна. Абодва гурты з Беларусі ад нейкага часу выступаюць супольна. Народныя песні ў апрацоўцы і аўтарскія творы «Пушчанскіх музыкаў» перапляталіся з эстраднымі танцамі ў выкананні «Непаседаў». Хіба самае вялікае ўражанне на публіцы зрабіў танец «Купалінка», у час якога дзяўчаты выступілі ў адмысловых уборах, якія шылі з дапамогай сваіх сямейнікаў.

— У нашым калектыве танцуе пад 80 чалавек — ад маленькіх дзетак, да дарослых асоб. Зараз мы прыехалі толькі ў складзе 6 чалавек, бо так было вырашана. Мы тут другі раз выступаем і нам у Белавежы вельмі падабаецца, — ахвотна расказвалі Оля Назарук, Маша Герасімюк і Яўген Краўчук, якія прыехалі са сваім кіраўніком Ларысай Нічыпарук.

Танцавальны калектыў «Непаседы» добра вядомы перш за ўсё жыхарам з другога боку Белавежскай пушчы, але танцоры з Расны і наваколля выступалі ўжо некалькі разоў у Расіі, Венгрыі, Італіі і нават у Кітаі. З нашага боку Белавежскай пушчы танцавалі яны раней у Белавежы і ў Кляшчэлях.

— Мы ўжо ад нейкага часу выступаем у супольнай праграме з «Непаседамі», каб нашыя выступленні зрабіць больш разнароднымі і цікавымі. Спяваем у галоўным апрацаваныя народныя песні і аўтарскія творы, — гаварыла музычны кіраўнік «Пушчанскіх музыкаў» Вераніка Малавік, якая першую песню заспявала сола.

Самае вялікае ўражанне на публіцы зрабіў танец «Купалінка» ў выкананні «Непаседаў»


— У «Пушчанскіх музыках» спяваюць толькі працаўнікі Нацыянальнага парку «Белавежская пушча». Мы рады выступаць на акраіне Белавежскай пушчы з другога боку мяжы, — заявіла іншая спявачка з Камянюкоў.

— Мы ўжо тут трэці раз выступаем і нам вельмі падабаецца ў Белавежы. Тут асаблівая добрая атмасфера. Публіка ахвотна слухае песень да позняй ночы. Рэпертуар тут разнародны і цікавы. Раней нам ладзілі экскурсіі па наваколлі, заўтра будзем адпачываць у Белавежы. Мне падабаецца архітэктура гэтай мясцовасці, — дабавіла спадарыня Вераніка.

Вялікае ўражанне на сабраных зрабіў татарскі калектыў «Katirsa-saray» з Белагорска (Крым, Украіна), у якім выступае вялікая сям'я крымскіх татараў. Прыгожыя ўборы і цікавыя спевы ўдала паказвалі адметнасць татарскай культуры.

— Заснавальнікам калектыву быў мой бацька, зараз старэйшая асоба. Выступаюць у ім нашыя сямейнікі, — сказаў член татарскага гурту «Katirsa-saray». — Мы маем магчымасць выступаць з песнямі і танцамі, але праблемай з'яўляецца захаванне мовы. У школах і дома дзеткі татараў наогул размаўляюць паміж сабой на рускай мове і калі нават разумеюць, калі гавараць да іх па-татарску, гэта не вырашае праблемы. Маладое пакаленне павінна ўмець гаварыць па-татарску, калі хоча захаваць сваю тоеснасць, а гэтаму можна навучыць толькі дома, у сем'ях.

Праблемы ў крымскіх татараў падобныя да нашых. Мы таксама змагаемся за захаванне роднай мовы і беларускай тоеснасці ў маладым пакаленні. Падобныя праблемы турбуюць таксама іншыя нацыянальныя меншасці ў Польшчы, але, напрыклад, немцы, якім дапамагае магутная нямецкая дзяржава, спраўляюцца з гэтымі праблемамі хіба найлепш. У Белавежы ўдала выступіў калектыў нямецкай меншасці «Oder Blass Band» з Жывацціцаў Апольскага ваяводства і запрэзентаваў нямецкія песні. Прадстаўнікамі польскай нацыянальнасці былі «Курпёўская капэла» з Ломжы, якая запрэзентавала спевы і ігру на даўніх музычных інструментах і капэла горцаў «Krzesanica» з Белага Дунайца. Ад імя літоўцаў выступіў фолькавы калектыў «Sutaras» з Вільні. Лэмкаўскую музыку запрэзентавала капэла «Дравутня» з Любліна. З гэтага горада прыехаў у Белавежу клезмерскі калектыў «KlezmaFour». Аднак у час «Ператоча», так як і ў мінулых гадах, найбольш выступіла беларускіх калектываў, ажно шэсць, бо і ў Белавежскай пушчы і навокал выдатную большасць насельніцтва састаўляюць беларусы. Удала запрэзентаваліся эстрадны калектыў беларускай народнай песні «Калінка» з Беластока, «Чыжавяне» з Чыжоў і ансамбль народнай песні «Валачобнікі» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў з Мінска. У цыганскім калектыве Музычны тэатр «Рада» з Гродна таксама выступілі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.

Цікавая і ў агульным прэзентаваная на высокім мастацкім узроўні народная і стылізавана на народную музыка розных нацыянальнасцей, а таксама цікавыя танцы прыцягнулі на «Ператоча» перш за ўсё людзей, якія ведаюць вартасць нацыянальных культур і традыцый, а таксама асобы, якія любяць адпачываць пры традыцыйных або стылізаваных на традыцыйныя спевах і танцах.

■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Дубровай


Вятрак каля Каменнай-Старой

На чыгуначнай станцыі ў Каменнай-Новай прысутнасць чыгункі па сутнасці толькі візуальная. Значыць рэйкі, пероны. Але тыя пероны пад буйнеючым раслінным палатном. Бо і каму таптаць тое палатно, калі адзіным ранішнім пасажырам паказваюся там толькі я. І паху чыгункі няма, бо ж цяперашнія машыны задавальняюць сучасныя экалагічныя нормы, не тое, што колішнія паравозы з іхнім немалым уздзеяннем на ўсе чалавечыя органы вонкавага ўспрымання. Будынак станцыі паглядае на сваё атачэнне закрытымі вокнамі, але дзверы ў пачакальню адкрытыя. За тымі дзвярмі два памяшканні, у першым лаўка пасядзець, у другім голыя сцены і яшчэ захаваныя пад вокнамі радыятары. У абодвух памяшканнях памяткі колішняй шматлюднасці станцыі ў выглядзе паднішчаных падлог. На будынку станцыі спачыло байкаватае рала, адламанае магутнымі вятрамі, што час ад часу наведваюць гэтыя прыцішаныя ад людзей мясціны. І некалькі соцень метраў за станцыяй, на асфальтоўцы, ляжыць — мо дзень або і больш — чарговае рала, якое, хаця заняло трацiну дарогі, не надта каму перашкаджае; адкідаю яго на пабочыну.

Кіруюся ў напрамку вёскі Каменная-Старая. Асфальтоўка сябруе тут з чыгуначнай лініяй, мо гэтым суб'ектам ландшафтнага нацюрморта ва ўзаемнай кампаніі зручней караталь няспешны тут час. Неўзабаве паказваецца чарговая мясцовая цікавінка — шэры бетонны паралелепіпед аднаго са шматлікіх вогненных пунктаў Лініі Молатава, пазіраючы адной амбразурай на неадлеглыя камунікацыі, так як меў гэта выконваць семдзесят два гады таму, быццам надалей выконваў сваю баявую задачу. Крыху далей чарговыя, гэтыя ўжо надта сучасныя, нават сюррэалістычныя, вартавыя мясцовай тапаграфіі: ланцуг прымацаваны двума замкамі да двух металічных слупкоў ахоўвае ўезд на пустое поле і загружаны ў буйное пустазелле шчыток з інфармацыяй, што гэта прыватная ўласнасць. Далей жытнія палеткі, якія не змаглі супрацьстаяць непрадбачанаму іхняй канструкцыяй ветру.

У Каменнай-Старой некалькі сапраўды старых хат апраўдвае назву вёскі. А вёска сапраўды старая, яна згадваецца ў дакументах з 1522 года. У 1574-1622 гг. быў там узведзены двор для навадворскага надляснічага. Недзе ў той жа час была недалёка яго ўзведзена і капліца, якая захавалася да нашых дзён; дакладная дата яе пабудовы не захавалася, але трэба лічыць яе адным з найстарэйшых сакральных аб'ектаў Беласточчыны. Цяпер яна рупліва адноўленая, абабіта яна новай шалёўкай і накрыта новай гонтай на месца бляхі, якой будынак быў накрыты амаль восемдзесят гадоў таму, у 1930 годзе. Дах капліцы нічым не аздоблены, няма нават малейшай сігнатуркі, толькі тонкі металічны крыж. Званіца з жалезных профіляў стаіць збоку. Вакол капліцы шпалера высокіх ліп. За капліцай намагільны помнік ураджэнцу Каменнай-Старой, генералу Нікадэму Суліку. Яго і ягонай жонкі Анелі астанкі былі з замежжа прывезены ў 1993 годзе на радзіму і тут перапахаваны. Разам з імі спачыў і памерлы сёлета іхні сын Балеслаў, які ў свой час быў старшынёй Краёвай рады тэлебачання і радыёвяшчання.

Гістарычная капліца з'яўляецца філіяльнай парафіі ў Дуброве-Беластоцкай. Яна каля двухсот-трохсот метраў за вёскай. Таксама за вёскай стаіць стары вятрак. Недалёка яго даволі маладая пара выбірала на агародчыку агуркі. Спытаў я іх пра той вятрак, а яны адказалі, што яны з Дубровы і пра вятрак нічога не ведаюць, зараз селі са здабычай у машыну і пакалясілі ў свой горад...

Насупраць ветрака на прыдарожным адхоне стаіць стары каменны крыж з 1906 года з просьбай згаварыць тры „здраваські" за душы ў чысцілішчы. Крыж зарос кустоўем і таго надпісу заняты безрэфлексіўнай спешкай цяперашні народ мабыць і не заўважае. Хіба толькі нейкія пажылыя людзі, што жывуць яшчэ паводле старога ладу жыцця, захавалі ў сабе імператыў такой малітвы.

З Каменнай-Старой, дзе даўным-даўно была сядзіба надляснічага, калісь-калісь пралягла дарога ў чарговую такую ж сядзібу — у Саколку. Дарогу тую


Капліца ў Каменнай-Старой

праклалі быццам пад лінейку, яна геаметрычна простая. І дала яна пачатак г.зв. Доўгай Вёсцы, якую зараз складае нізка „каротшых" вёсак. Першая з іх Асмалоўшчына сутыкаецца з Малышоўкай, але Малышоўка ўжо не вёска, гэта вуліца Дубровы-Беластоцкай. На лавачцы перад адной з гарадскіх вясковых хат Малышоўкі спатыкаю вельмі пажылога мужчыну; прысядаюся да яго.

Насупраць ягонай хаты калодзеж. Мой субяседнік інфармуе мяне, што тым калодзежам карысталіся калісь пяць сем'яў. І цяпер ён ім карыстаецца сам, бо хаця жыве ў горадзе, то водаправоду ў сваёй хаце не мае. Так склалася, што ў час, калі пракладвалі водапровад, сямейнікі з-за разыходжання міжусобных меркаванняў гэтым дабрадзействам не пакарысталіся. І зараз пажылому чалавеку, якому восемдзесят восем гадоў, трэба самому насіць ваду са студні, што на супрацьлеглым да яго дома баку вуліцы; асабліва цяжка зімою, калі коўзка. І ногі ў яго ўжо знямоглыя, трэба карыстацца аж дзвюма мыліцамі. Пытаю яго яшчэ пра вятрак каля Каменнай-Старой; той вятрак з царскага бадай яшчэ часу, але пасля апошняй вайны ўжо не працаваў.

Дарэчы, у Малышоўцы яшчэ некалькі студняў, якія ў наш час у карыстанні. Але там маю ўвагу: каплічка з двума крыжамі абапал яе. На адным з іх надпіс: „Na Pamiątkę Pobytu Biskupa Wileńskiego Księdza Edwarda w m. Dąbrowie i przejazdu Jego przez Wieś Małyszówkę d. 6-go Września 1905". Помнік пастаўлены Янам Седзікам у 1907 годзе. Візіт біскупа з далёкай Вільні быў падзеяй незвычайнага рангу. Вось што пра той візіт пісаў адзін з тадышніх парафіяльных актывістаў Фелікс Піхель з Грабова: „Pierwszego i piątego września mieliśmy niezwykłą bardzo radosną w naszej parafii uroczystość, wizytację naszego Pasterza Diecezji Wileńskiej biskupa Edwarda Roppa. Tydzień przed tym czyniliśmy przygotowania do przyjęcia tak pożądanego i miłego dla wszystkich gościa. W całej parafii z rozporządzenia proboszcza ks. Górskiego dziewczęta robiły wianki po 25 arszyn i więcej długości, wianki były z rozmaitego i to farbami ozdobionego zboża, ziół, kwiatów naturalnych i robionych papierowych. Takowymi wieńcami ubraliśmy cały kościół wewnątrz. Na zewnątrz też poczyniono ozdoby z wieńców. Oprócz tego zbudowano pięć bram ubranych zielenią i wieńcami. 1 brama koło wsi Jacznego na granicy parafii nowodworskiej, stamtąd miał biskup jechać. 2 brama przed miastem Dąbrowa na Grodzieńskiej ulicy. 3 na końcu wioski Małyszówka od strony Dąbrowy, dlatego że tamtędy biskup miał zamiar jechać do Kamiennej oglądać kaplicę starożytną zwaną „Kościółek". 4 przed kończącą się ulicą przed kościołem i 5 przed bramą kościoła. Z rozporządzenia proboszcza przygotowano z młodzieńców konną kawalerię jakby wojsko, ze 130 albo i więcej koni ubranych w zieleń i kwiaty. Każdy miał czapkę z niebieskiej materii oraz szarfę takowąż przez ramię. Było przygotowane grono dziatek ubranych w bieli z niebieskimi szarfami przez ramię, chłopaki osobno, dziewczęta osobno, po kilkaset w kompanii. Od godziny 12 po południu zebrało się wiele ludu ze swojej oraz innych parafii. Od godz. 6 po południu czekaliśmy Pasterza w bramie kościoła z całą formalnością uroczystą, z duchowieństwem, bractwem, chorągwiami i baldachimem. O tej porze miał przyjechać z Nowego Dworu ale stało się inaczej, bo był na obiedzie w majątku Kudrawka, więc czekaliśmy do godziny 10. W tym czasie przybył posłaniec i powiedział — jedzie. Przy 1 bramie koło Jaczna czekała konna kawaleria na spotkanie. Przy drugiej bramie pod miastem — grono dziatek z chłopaków i Żydzi z dziesięciorgiem, rabinem, chlebem i solą. Przy 3-ciej bramie blisko kościoła grono dziatek z dziewczynek. Przy 4-tej bramie przed kościołem całe duchowieństwo i nas trzech deputowanych od parafii z chlebem i solą. I tak doczekaliśmy na koniec. Noc była ciepła, cicha i pogodna. Miesiąc w całej pełni a ludu tyle jak na Wielkanoc w czasie Rezurekcji, albo i więcej. Była muzyka z Grodna z pożarnej komendy, która grała marsza z wieży kościelnej".

Так Дуброва вітала віленскага біскупа Эдварда Ропа. А кім жа ён быў, якім чалавекам? Вось вытрымка з аднаго з парталаў: „Ён нарадзіўся [14 снежня 1851 г.] у мясцовасці Ліксна Дынабургскага павета (блізу сучаснага Даўгапілса), паходзіў з арыстакратычнага нямецкага роду — сярод ягоных продкаў былі знакамітыя Плятэры. Скончыў факультэт права ў Пецярбургскім універсітэце, прадоўжыў вучобу ў Ковенскай духоўнай семінарыі, паглыбляў тэалагічную адукацыю ва ўніверсітэтах Аўстрыі ды Нямеччыны. У 1886 г. прыняў святарскае пасвячэнне, у 1902 — біскупскі сан. У 1903 г. Папа Рымскі Пій Х прызначыў яго біскупам Віленскай дыяцэзіі. Ягоны мудры, разважлівы характар як найбольш прыдаўся ў Вільні ў часе неспакойнага 1905 года, калі біскуп лагодзіў складаныя нацыянальныя адносіны — супакоіў народ і не дапусціў габрэйскага пагрому. Ягонай мудрасці хапіла таксама супрацьстаяць русіфікацыі Касцёла, на чым настойваў расейскі ўрад, намагаючыся ўвесці расейскую мову ў набажэнствы ды навучанне рэлігіі ў школах. Біскуп усялякім чынам імкнуўся ўлічваць рэлігійныя патрэбы беларусаў. «Адстойванне праўды й справядлівасці сталася нялюбым для расейскага ўраду, які ў 1907 г. пазбавіў яго Віленскай біскупскай катэдры», — пісаў пра яго ў артыкуле «У чэсць Хрыстовага Апостала» («Хрысціянская думка», 1936, № 10) кс. Адам Станкевіч".

*(працяг будзе)*

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Грыша МАРОЗ

# Жніво

На канец настала жніво. Селянін пачаў збіраць свой плён, каля якога таптаў амаль год. Прыйшла прыгожая пара — лета. Сонейка прыгожа свеціць, быццам падказвала селяніну: пачынай жніво, касі збожжа, збірай з поля плён цяжкой працы сваёй. На гэта ты, працавік, заслужыў. Бо невядома, як доўга прыгожая пагода пастаіць. А цяпер кожны дзень на вёсцы — залаты. І калі ўцячэ — шкадаваць будзеш.

У нашай частцы Гайнаўшчыны пачалі касіць рапс, які ў нас называецца рапачок. Праўду хтосьці аднойчы сказаў: хто мае ў гаспадарцы рапачок, у таго і празнічок. Бо рапак найхутчэй даспявае, яго ўжо можна касіць і на пункт скупкі здаваць. А за яго будуць неадкладна і грошы.

А тут акурат выпадае і вялікае свята ў нашай акрузе — святой праведнай Анны ў Старакарнянскім прыходзе. Мы, стараберазоўцы, хаця да старакарнянскай грамады не залічваемся, аднак іх святую Анну ад вякоў святкуем. Неаднойчы нашыя кабеты кажуць: „Вось пачалася такая гарачая пара працы ў гаспадарцы, а тут умяшалася Анна са сваім святам. Не магла яна паявіцца па жніве!" Што зробіш; так, пэўна, ужо мае быць. І кабеты кідаюць працу і рыхтуюцца да свята, таму што яно ў нас найважнейшае. І то здаўна так вядзецца.

Вёска наша, Старое Беразова, ляжыць на шляху з поўначы на поўдзень, калі едуць у Старое Корніна. І ўсе сваякі ці знаёмыя, калі вяртаюцца са свята са Старога Корніна, затрымліваюцца ў Старым Беразове. А на свята святой праведнай Анны здалёк едуць. Калісь гаварылі, што даязджалі аж з-за ракі. Таму што ікона святой Анны праславілася вельмі далёка. Па малітвах перад ёю сляпыя пачыналі бачыць, кульгавыя кідалі мыліцы і пачыналі хадзіць. Вялікія цуды здзяйсняліся па малітвах святой праведнай Анны. На доказ гэтаму яшчэ цяпер вісяць ланцугі, што апалі з рук зняволеных, якіх гналі на катаргу. Толькі гэта ўжо іншая тэма, якую можа калісь апішу.

Маёй сённяшняй тэмай меў быць пачатак жніва. Толькі калі пачнеш пісаць, пра ўсё такое цікавае хаця крышачку хочацца закрануць. Адно хачу засцерагчы, што не вельмі мне ўсё складваецца, бо я толькі што вярнуўся з бальніцы і ў галаве ўсё параскідванае. Патрабую часу, каб усё прывесці ў парадак. Аднак не вытрымаў, каб маўчаць у такую гарачую пару. І спадзяюся, што мае апекуны-анёлы ў „Ніве" такія добрыя, што ўсё талкова складуць і выйдзе прыемны артыкул.

Бо як жа тут сядзець склаўшы рукі? Пагода такая прыгожая, што ніхто і нішто на месцы не ўседзіць. Камбайны ездзяць па палях, малацілкі гудуць, трактары збожжа ў свіраны звозяць. Селянін выкарыстоўвае кожную прыгожую хвіліну дня, кожны хоча як найбольш з поля сабраць, каб пагодай пакарыстацца і да свята нарыхтавацца.

Вядома, свята не тыдзень, а адзін дзень, толькі кожны яго па-рознаму святкуе. Адзін у адзін адсвяткуе дзень, а другому і два дні малавата. А вядома, як пасля свят цяжка работу пачынаць. Не аднаму галава баліць, усё цяжкое, быццам некалькі дзён памалаціў. І ахвоты няма. Па вёсцы яшчэ будуць сям-там спевы раздавацца, а ты за работу бярыся...

Не, лепш перад святам зрабіць што можна, не пакідаць на пазней. Вось ужо і адвячорак надыходзіць, а ў полі праца грыміць. Кожную хвіліну селянін выкарыстоўвае, таму што збожжа сухое, можна жаць пакуль раса не ападзе. Так людзі і робяць. Пачалі касіць рапак і цяпер перайшлі на ячмень; ячмень таксама даспявае хутка, не ўбачыш і калі. Пачнуць касіць рапак, а затым ячмень і пшаніцу. А потым жыта і авёс. Так было штогадова і сёлета так будзе. Добра, што ўжо пачалося. Спачатку пабеглі, як кажуць, тыя першыя, а потым і апошнія не вытрымалі.

А як тут вытрымаць, калі ўсё заклікае да жніва, так што жніво ў нас пачалося 23 ліпеня 2012 года. А першым у вёсцы распачаў яго малады гаспадар-бізнесмен Юрка Ялоза, які мае найбольшую гаспадарку ў вёсцы і найлепшы, як цяпер кажуць, машынны парк. Толькі аб ім, калі дазволіць, напішу пазней. А там ёсць аб чым пісаць — гэта ўжо гаспадарка XXI веку. Толькі не абганяйма фактаў, на ўсё свой час.

Ну, думаю, з мяне дык хопіць. Няхай другія больш напішуць, і складней. Хтосьці можа прыгожы здымак зробіць, я ж не маю чым, яшчэ не зарабіў на фотаапарат. А без здымка, вядома, усё не так выглядае як вачыма ўбачыш. Толькі такія думкі ходзяць, што калі будзеш жыць і выправіцца здароўе, тады можа і да авангарду карэспандэнтаў прылічуся. А хацелася б і мне, старому карэспандэнту, даказаць, што і мы яшчэ апошняга слова не сказалі. На сёння астаюся з добрай думкай і ўсім жадаю поспехаў.

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



To be a Woman

Рэйтынг найпрыгажэйшых жанчын Алімпіяды 2012

## http://tobeawoman.by

Газеты, часопісы, кнігі ці сайты, якія ніколі не застануцца незапатрабаванымі ў большай частцы грамадства — гэта ўсе тыя, што прызначаны для жанчын. Паколькі жанчыны складаюць большую частку насельніцтва ў кожнай краіне нашага кантынента, з выключэннем, натуральна, Ватыкана, то канкурэнцыя сярод жаночых выданняў даволі высокая. Гэта зразумела — якая ж рэдакцыя ў ідэале не хоча аваладаць думкамі і грашыма большай часткі насельніцтва. І для дасягнення такой маркетынгавай мэты можна выкарыстоўваць розныя, на першы погляд незвычайныя, спосабы. Такія, напрыклад, як выкарыстанне беларускай мовы для гламурнага жаночага сайта.

Падаецца, што ў перыяд татальнага вынішчэння ў Беларусі беларускай мовы, знікнення яе амаль з усіх сфер грамадскага жыцця, выкарыстанне беларускага слова ў тэматыцы памады і даўжыні спадніц — малаверагодна. Але гэта факт! Сведчаннем таму можна назваць сайт „Быць жанчынай", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://tobeawoman.by.

Жаночы сайт, як і належыць, мае ружовы колер. Нельга сказаць, што на ім шмат разнастайных аздабленняў, але ягоныя распрацоўшчыкі паклапаціліся аб размяшчэнні на галоўнай старонцы выявы прыгожай маладзіцы, разнастайных, падобных на карункі, колцаў. Цікава, што галоўная старонка з'яўляецца адначасова рубрыкай „Навіны". Праўда, аб гэтым даведваемся, калі ўважліва чытаем усё, што тычыцца кожнага артыкула.

Паколькі ўласна існаванне такога жаночага беларускамоўнага сайта з'яўляецца з'явай неардынарнай, то ўзнікае жаданне даведацца аб яго аўтарах і натхняльніках. Рука з „мышкай" цягнецца, каб клікнуць на выйсце „Пра праект", але там нас чакае расчараванне — старонка пустая.

Больш-менш вызначаючая ідэю сайта інфармацыя змешчана на старонцы „Гэта мы!". „Мы радасныя прэзентаваць новую рубрыку нашага праекту — „Гэта мы!". Нам важна ведаць пра вас, нашых чытачоў, крыху больш, чым проста лічбы ў статыстыцы наведванняў „To be a Woman". Таму мы вырашылі аздобіць яе ў выглядзе альбому, у якім кожная з вас можа размясціць свой фотаздымак, пакінуць колькі звестак пра сябе, а таксама выказаць свае меркаванні наконт таго, што менавіта для вас азначае быць жанчынай. Спадзяемся, што і вам будзе цікава гартаць старонкі гэтага альбому, знаёміцца паміж сабой і адзначаць для сябе штосьці новае ў памкненні быць Жанчынай", — заклікаюць да абмену сваімі думкамі і поглядамі невядомыя стваральнікі жаночага партала.

Астатнія рубрыкі прадстаўляюць сабой практычна ўвесь спектр інтарэсаў сучаснай жанчыны — „Здароўе", „Зорны калейдаскоп", „Кінаагляд", „Кар'ера", „Кніжная паліца", „Ласункі", „Нашыя дзеткі", „Працілегласці", „Прыгажосць", „Стыль".

Не пакінуты без увагі і мужчынскія думкі і меркаванні, зразумела, аб жанчынах. Пра гэта распавядаецца на старонцы „Слова мужчынам". Праўда, там змешчаны ўсяго толькі адзін артыкул, дзе мужчыны жаласна распавядаюць аб сваіх разнастайных няўдачах і непаразуменнях з процілеглым полам.

Нягледзячы на тое, што сайт мае цалкавіта беларускамоўнае аздабленне, там прадугледжана і рускамоўная яго версія.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# Скарбы Беларусі

### Незвычайная Нача

Ёсць вёскі, якія ляжаць удалечыні ад турыстычных маршрутаў і малавядомыя нават гісторыкам. Відаць, у кожнай мясціны свой лёс і для кожнага паселішча ёсць свая вышэйшая задума. Адны ўвогуле знікаюць з твару зямлі, іншыя ў працэсе ўрбанізацыі зрастаюцца з сабе падобнымі і пераўтвараюцца ў гарады, трэція нібы законсерваваныя ў часе і амаль не мяняюцца стагоддзямі. Ёсць гарады, у гісторыі якіх мала адметнага, а ёсць невялікія мястэчкі, якія даюць краіне цэлы шэраг выдатных асоб. Менавіта з такіх мясцовасць Нача ў Вараноўскім раёне на сучаснай Гарадзеншчыне.

Нядаўна ад краязнаўца Андрэя Аляхновіча я даведаўся, што ў Крупскім раёне Мінскай вобласці таксама ёсць вёска Нача з цікавай лакальнай гісторыяй. Паходжанне гэтага тапоніма „не хочуць" тлумачыць навукоўцы, старанна яго абмінаючы. Існуе версія, што назва пайшла ад балцкага слова „nasus", што азначае „урадлівасць". Іншыя ж гіпотэзы ўвогуле недарэчныя.

Размешчана мястэчка Нача на паўночным захадзе Беларусі, пры самай мяжы з сучаснай Літвой. Шлях да яго пралягае праз больш вядомую Радунь. У гэты куточак патрапіць зараз зусім няпроста. З дарогамі то ўсё ў парадку, але паводле задумы стваральнікаў „зоны" мясцовасць апынулася ў ліку памежных тэрыторый, куды можна трапіць толькі маючы адмысловы дазвол. Тут можна прыгадаць нядаўнюю гісторыю з мясцовым навукоўцам, які быў аштрафаваны за спробу трапіць у Начу, куды ён раней вольна прыязджаў дзесяткі разоў.

Паселішча Нача ў пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца пад 1517 годам, але паводле археалагічных доследаў ураджэнца гэтай зямлі Вандаліна Шукевіча першыя людзі тут з'явіліся ажно чатыры тысячы гадоў таму. У пачатку XVI стагоддзя Нача была родавай уласнасцю Венсела Станьковіча і Марціна Радзівілавіча. Яны прадалі яе гаспадарскаму баярыну Радуньскага павета Шымку Міктавічу. Пазней маёнтак стаў уласнасцю Януша і Марыі Касцевічаў. Пасля смерці мужа Марыя заснавала тут парафію і пабудавала касцёл. Пасля 1559 года Нача належала магнатам Кішкам і Радзівілам. З 1631 года была заселена татарамі, нашчадкі якіх і дагэтуль жывуць у суседняй вёсцы Некрашунцы. У 1690 годзе маёнтак стаў уласнасцю лідскага архітэктара Людвіка Доўгірда.

З Начай цесна пераплецены род Нарбутаў, родавы маёнтак якіх быў непадалёк у мясцовасці Шаўры. Менавіта каля нацкага касцёла пахаваны Тодар Нарбут — постаць знакавая для свайго часу, заснавальнік на нашых землях гістарычнай навукі і краязнаўства, асоба агульнанацыянальнай значнасці. Тут жа знайшоў свой апошні спачын выдатны натураліст Станіслаў Юндзіл. А ў 80-я гады ўжо мінулага стагоддзя непадалёк касцельнай агароджы быў пастаўлены помнік паўстанцам 1863 года. У гэтым збройным чыне быў сфарміраваны вялікі мясцовы паўстанцкі атрад, якім верхаводзіў легендарны Людвік Нарбут. З помнікаў архітэктуры акрамя стогадовага мураванага касцёла варта згадаць яшчэ больш старую плябанію, а таксама колішні будынак драўлянай карчмы XIX стагоддзя, які зараз служыць жылым домам. У будынку школы змяшчаецца краязнаўчы музей, да стварэння якога чынна прычыніўся мясцовы настаўнік гісторыі і паэт Уладзімір Руль. На ўскрайку мястэчка, бліжэй да лесу родавая каплічка-пахавальня Шукевічаў, дзе пахаваны згаданы вышэй навуковец, пачынальнік айчыннай археалогіі. Калі мы з сябрамі прыязджалі туды першы раз, яна была яшчэ паўразбураная. Зараз ужо рэстаўраваная.

Мае мястэчка і свой беларускамоўны сайт — http://nacha.ucoz.org/ — добры прыклад для іншых. У Начы заўсёды жылі і жывуць таленавітыя людзі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Стогадовы юбілей царквы ў Такарах

■ Уладзімір СІДАРУК

(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Асноўная частка святкавання праходзіла ў Вілінаве. Тут Яго Блажэнства мітрапаліт Сава асвяціў крыж на ростанях за вёскай, узведзены жыхарамі ў гонар стогадовага юбілею. Пасля чыну асвячэння ўдзельнікі падаліся ў вясковы клуб. Гасцей чакалі святочны банкет і канцэрт. Арганізатарам мерапрыемства была прыхадская царква, узначальваная настаяцелем а. Яўгенам Хадакоўскім.

Надвор'е пачало пераменяцца. Неба зацягнулася хмарамі, падзьмуў рэзкі вецярок. Для гуртоў пачастунак быў у прыспасобленай на пляцоўцы палатцы. Апошнія гасцявалі ў банкетнай зале. Калі „Васілёчкі" з „Верасамі" частаваліся ў палатцы, нечакана падняўся ўраган. Дрэвы гнуліся ў дугу. Сыпануў моцны дождж. Струмяні вады ўліваліся ў палатку праз адкрытыя акенцы. Але навальніца не цягнулася доўга. Праз хмары пачало прабівацца сонца. На пляцоўцы побач клуба пачулася музыка. Сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. У асноўным былі гэта члены выступаючых гуртоў, якія чакалі сваёй чаргі. Захапляла мяне разнароднасць каляровых касцюмаў. У шматлюдным натоўпе прыкмячаю „Жэмэрву" з Дарафеем Фіёнікам і яго сястрыцай Аняй, Віталя Соху з Тапаркоў і Валянціну Марціновіч з Краснага Сяла. Завёў я гутарку з мясцовымі „Верасамі". Гурт прэзентаваўся ў народных касцюмах.

— Адкуль такія ўборы? — пытаюся ў кіраўніка калектыву Леакадзіі Саўчук.

— Два гады таму рэлізавалі мы еўрасаюзны праект, — распавядае яна. — З Маршалкоўскай управы атрымалі мы 12 тысяч злотых. Грошы прызначылі на касцюмы для калектыву. Заказ выконвала кравецкая майстэрня ў Боцьках. Сёлета ўдзельнічалі мы ў цэнтральным аглядзе рэгіянальных песень у Казімежы-над-Віслай. З намі ездзілі Віталь Соха і Валянціна Марціновіч. Выступала больш за сто дваццаць гуртоў і восемсот удзельнікаў. Наш калектыў з васьмі чалавек з ліку 28 гуртоў даўнейшых песень (без акампанементу) заваяваў трэцяе месца. Гэта для нас вялікі гонар...

Спыняем размову. Да вясёлай кампаніі далучаецца мітрапаліт Сава. Не ўдзельнічаў ён у гульні. Стоячы збоку, запрашаў самадзейнікаў у супольны карагод. Важакамі ў танцы былі Віталь Соха і Леакадзія Саўчук. Жывая музыка беларускай полькі несла танцораў быццам павуцінку ў паветры. Музыканты рабілі хвілінныя перапынкі, затым зноў рэзалі бадзёрыя мелодыі.

Варта адзначыць, што на такароўскі юбілей прыехала шэсць гуртоў з Кобрынскага раёна. Большая частка з іх супрацоўнічае з фальклорнай групай Дарафея Фіёніка. Маю ўвагу прыцягнуў гурт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі „Гаманіна". Гурт арганізаваўся ў 1991 годзе, а кіраўніком з'яўляецца Наталля Сазановіч. Абмяняліся мы адрасамі электроннай пошты і скайпа для далейшых кантактаў. Беларускім гуртам назначаўся пазнейшы выступ. „Каму ў дарогу, таму час..." — „Васілёчкі" якраз закончылі выступ і выходзілі з пышным букетам. Збіраемся затым у зваротнае падарожжа. Чакае нас чарговае мерапрыемства — у Залешанах...

# За мяч у турму?

Большасць вясковых школ узнікла на ўчастках, перададзеных для гэтай мэты мясцовымі жыхарамі. Большасць школьных аб'ектаў была ўзведзена дзякуючы супольным намаганням гэтых жа людзей. Бо школа на вёсцы была патрэбная, мела служыць насельніцтву. Так як і школьныя спартыўныя пляцоўкі, на якіх босыя футбалісты кожную свабодную хвіліну прызначалі на забіванне галоў, гонкам на нагах і веласіпедах, скокам у даўжыню і валейболу. Тады дзяцей на вёсцы было многа і школьныя аб'екты сапраўды служылі мясцоваму насельніцтву.

Але, на жаль, час мяняецца. Цяпер на вёсцы менш дзяцей, прытым менш у іх гульняў на адкрытым паветры ці спартыўных спаборніцтваў. Вясковых дзяцей таксама запаланілі камп'ютар, мабільнік з усімі прыбамбасамі і ўстарэлы ўжо трохі тэлевізар. Таму трэба цешыцца, калі паяўляюцца нешматлікія спробы арганізаваць дзецям заняткі на паветры, калектыўныя спартыўныя гульні, напрыклад, любімыя хлопцамі футбольныя матчы. Аднак для футбола неабходная спартыўная пляцоўка, напрыклад, школьная. І тут пачынаюцца праблемы.

Падставовая школа ў Толвіне каля Сямятыч узнікла яшчэ перад сусветнай вайной дзякуючы супольным намаганням дзяржавы і жыхароў навакольных вёсак. Пры школе знаходзіцца прыгожая пляцоўка. На жаль, яна не для вясковай дзетвары. Калі ў час канікул вучні хочуць пакарыстацца спортпляцоўкай і пагуляць з мячыкам, іх праганяюць працаўнікі школы. Да таго ж яшчэ палохаюць дзяцей паліцыяй, якая найбольш упартых гульцоў мела б выводзіць сілай. Ну і дзеці абмінаюць школу здалёк. Але гэта не вырашае справы.

Школьныя чыноўнікі (настаўнікі?) пэўна баяцца адказнасці ў сітуацыі, калі б на пляцоўцы здарыўся нешчаслівы выпадак. Пэўна не прыходзіць ім у галаву вырашэнне гэтай праблемы, напрыклад, дзяжурствы настаўнікаў у час канікул, або выкупленне адпаведнага страхавога поліса. Найпрасцей прагнаць дзяцей са школьнай пляцоўкі. Няхай тады бацькі самі клапоцяцца. У настаўнікаў жа ж канікулы!

Ну і бацькі турбуюцца. Але на адным сумаванні не спыняюцца. Вось адзін з жыхароў Бацікаў-Дальшых прызначыў кавалак свайго луга для дзіцячай спортпляцоўкі. Паставіў часовыя вароты і хлопцы з усяго наваколля з'язджаюцца сюды, каб пагуляць у футбол. А пры нагодзе маці з навакольных дамоў ведаюць, дзе прабываюць і што робяць іх дзеці. Тут, каля дома, пэўна не будуць курыць „каноплю", толькі ганяцца за мячом з раніцы да вечара.

І што? Можна і без паліцыі, і чыноўнікаў. Толькі трэба гэтых нашых дзяцей любіць і не ставіцца абыякава да іх лёсу. На жаль, у школьных чыноўнікаў такіх пачуццяў няма. Шкада, што яны ў большай ступені з'яўляюцца шасцярэнькамі ў бюджэтнай машыне, чым людзьмі.

М. Ц.

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | 2 | | | | 3 |
| | 4 | | | 5 | | 6 | | | | | | |
| | 7 | | | | | | | | | | | |
| | | | 8 | | | | 9 | 10 | | | | 11 |
| | | | | | | | | | | | | |

1. напрамак свету, у якім сонца не паказваецца, 2. юрыстабаронца, 3. прылада для кіравання канём з запрэжкі, 4. сыры, недапечаны слой у хлебе, 5. прозвішча беларускага першадрукара, які паводле Лукашэнкі жыў у Піцеры, 6. ежа, якая калісь падала з неба, 7. скарасны спуск з горкі на лыжах па зададзеным складаным маршруце, 8. мільён грамаў, 9. працяглыя, бурныя воплескі, 10. выдатнік або двоечнік, 11. элемент камп'ютара, які вызначаецца ў байтах.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская прыказка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 29 нумара

Вуда, вываз, вяз, жар, іл, мім, нацыя, пена, савет, суд, юз, ява.

Рашэнне: **Я сваю дзяржаву за цывілізаваным светам не паведу** (фраза Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# 19.08 — 25.08

**(22.03. — 20.04.)** Большыя інвестыцыі пачынай пасля 23.08. Баран, якога турбуе недахоп грошай, можа старацца за павышэнне. З 24 (да 28.08.) зоркі памогуць табе рэалізаваць мары; здайся на інтуіцыю і рабі так, як табе падкажа сэрца. Серада добрая для рознай даследчыцкай працы.

**(21.04. — 21.05.)** Твае турботы за лепшы быт могуць аказацца не дарэмнымі. Добры час на пазыку на будаўніцтва і вялікія набыткі. У панядзелак асабліва ўдадуцца ўсе твае справы. Аўторак — дзень кантрастаў. Усё, што датычыць грошай, у пятніцу стане на сваё месца. 19-20.08. можаш апынуцца паміж молатам і кавадлам; не дыскутуй з людзьмі, ад якіх залежыш.

**(22.05. — 22.06.)** Добры час, каб пачаць штосьці новае (21-25.08.). Да 21.08. ідэальныя нагоды для змен, да якіх прымерваешся ад даўжэйшага часу; заззяеш вынаходлівасцю. Тое, што не спрацавала ў мінулым, больш не прыдасца — трэба будзе знайсці новыя шляхі вырашэння праблем. Пад канец тыдня мілыя сюрпрызы ад калег.

**(23.06. — 23.07.)** Твае пачуцці будуць браць верх над логікай. Адкінь раздражнёнасць і пастарайся глыбей унікнуць у прапановы калег і сваякоў; калі паслухаеш іхніх парад, пасля будзеш рады. У чацвер магчымыя сустрэчы з уплывовымі людзьмі. У пятніцу найлепш адпачывай.

**(24.07. — 23.08.)** Асабліва ўдадуцца выезды 21-25.08. 19-22.08. перш за ўсё не слухай плётак і неправераных дарадчыкаў, не ўключайся ў чужыя канфлікты. На гэтым тыдні магчымыя сумесныя праекты з былымі канкурэнтамі ці праціўнікамі. Прыбыткі ў фінансах. Не давай неабдуманых абяцанняў.

**(24.08. — 23.09.)** З 22.08. вельмі ўзмоцніцца твая энергія. Будзеш здаровы, радасны, поўны жыцця. Адмоўся ад вострых дыет (і так зможаш пахудзець). 19-21.08. можаш смела скочыць на глыбокую ваду; адважныя рашэнні дадуць працэнты! Добры час для пераезду ў новы дом.

**(24.09. — 23.10.)** З 23.08. станеш лепш зарабляць, ды і выдаваць лёгкаю рукою. Можаш зрабіць генеральны рамонт у хаце або памяняць аўто. Новыя сустрэчы. Будзеш у цэнтры зацікаўлення і ўвагі. У справах праяўляй больш гнуткасці, ідзі на кампрамісы, бо і так даб'ешся сваёй мэты. Серада — ідэальны момант, каб пазбыцца шкодных звычак.

**(24.10. — 22.11.)** Да 23.08. дасягнеш кожнай мэты. З 23.08. будзь вельмі асцярожны на дарозе, не толькі за рулём. Варта таксама табе наведаць зубнога лекара. Турбаваць цябе будуць сваякі, але найбольш адна сяброўка, якая будзе цябе засыпваць сваімі праблемамі. У аўторак рамантычная сустрэча з чалавекам, прыехаўшым здалёк.

**(23.11. — 22.12.)** 21-25.08. нахлыне на цябе прыліў натхнення. Знакаміты час на інтэлектуальнае і духоўнае развіццё. Магчымае дасягненне вялікага поспеху ў розных службовых справах. Няблага і ў фінансах. У сераду важныя перамены і нечаканыя весткі.

**(23.12. — 20.01.)** Лёс цяпер дасць табе шанц падняцца па службовай лесвіцы, ды трэба будзе табе пастарацца. З калоды карт вазьмі бубновую дзесятку, пашмаруй яе кропляй базілікавага або бергамотавага алею і насі ў сваім кашальку для таго, каб разбагацець. 19, 20.08. пачнуцца турботы ў каханні.

**(21.01. — 19.02.)** 19, 20, 21.08. будзеш у змозе пераканаць кожнага да сваіх задум, знакаміта дагаворышся таксама з партнёрам. 19-22.08. лепш не выбірайся ў падарожжа. У панядзелак не адкрывай рахункаў у банку, не ўкладвай грошай і лепш адмоўся ад фінансавых аперацый. Субота — найлепшы дзень для творчых людзей.

**(20.02. — 21.03.)** Звычайныя працоўныя дні, напоўненыя прыдзіркамі кіраўніцтва. Пазбаўся ад непатрэбшчыны і людзей, якія ўносяць у тваё жыццё хаос. 22-26.08. хтосьці схоча цябе звабіць, на нямілыя залёты адкажы больш рашуча. З 24.08. будзеш вельмі адважны і самаўпэўнены. У чацвер не займайся азартам, ды наладжанае ў гэты дзень новае знаёмства прынясе табе дабро.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

■ Тэкст і фота Евы СЦЕПАНЮК

# На хвалі святой камерцыі (2)



Хоць захавалася за восемдзесят варыянтаў *Аповесці пра Смаленскага пакутніка Меркурыя*, яго асоба з'яўляецца адной з найбольш таемных і сакрэтных персанажаў сярод сярэднявечных праваслаўных святых. Няма гістарычных доказаў на існаванне такога рыцара-абаронцы. Праўда, ён нябесны абаронца Смаленска, там жа захоўваюць у якасці святыняў сандалі святога, і ім, як інфармавалі ў 2008 годзе СМІ, пакланіўся сам Уладзімір Пуцін. Так ці інакш недавер і сумненні наконт рэальнасці святога існавалі ад пачатку яго культу, значыць, ад 1239 года, калі адбывалася апісанае ў *Аповесці пра Смаленскага пакутніка Меркурыя* нашэсце татара-манголаў пад камандаваннем хана Батыя. Паводле гісторыкаў, нашэсце было запыненае самой маткай-прыродай, канкрэтна вясновымі разлівамі Дняпра, над якім раскалажаны старажытны Смаленск.

Вучоных і крытыкаў культу хвалявалі яшчэ неверагодныя матывы аповесці, калі аўтар расповеду дае голас адсечанай галаве пакутніка. У адказ крытыкам пасяшылі расейскія агіяграфы. Яны максімальна падбілі неверагоднасць святога. У іх аповесцях Меркурый дзейнічае ўжо па поўнай праграме: у адной руцэ нясе сваю адсечаную галаву, якая спявае багародзічны акафіст, а ў другой вядзе свайго вернага каня.

* * *

Кажуць, што ў Метэорскіх манастырах узвышаецца дух чалавека, і гэта на самой справе адбываецца. Найперш з-за прыгожасці месца, якое напамінае таемны скальны лес, дзе тысячы больших і меншых скал складаюць адну адмысловую кампазіцыю. Калі патлумачыць з грэчаскай мовы слова „метэоры" атрымаем такое ж лёгкае і паэтычнае тлумачэнне: *узведзены ўгару, пабываючы высока ў паветры*. Папраўдзе Метэоры збудаваныя з пяску і кальцыю, а касмічную форму і кшталт сфармавала рэчка, якая шэсць мільёнаў гадоў таму тут улівалася ў мора.

Хрысціянскія абшчыны ў Метэорах з'явіліся ў X стагоддзі, засяляючы найперш пячоры і скіты. Бацькам і заснавальнікам найстарэйшага манастыра, так званага Вялікага Метэора (*Megalo Meteoro*) быў святы Афанасій. Паводле легенды, ён дастаўся на пік гары на крылах арла. Першы манастыр існаваў ужо ў 1336 годзе. У гады вайны паміж Сербіяй і Візантыяй Метэоры сталі надзейным і бяспечным месцам для палітычных уцекачоў. Тут між іншым схаваўся прэтэндэнт на сербскі трон Ян Палеолаг. Найбольшы росквіт гэтага месца прыйшоў пры панаванні асманскага султана Сулеймана Цудоўнага (1520-1566), калі манастыр былі вымушаны ўтрымоўваць Фесалія, Малдавія і Валахія...

Цягам дзесяці стагоддзяў на вяршыні скал было ўзведзеных аж 24 манастыры. Кожны будынак быў доказам перавагі чалавечага духу над яго фізічнай слабасцю. Найбольш складаным быў першы этап пабудовы. Матэрыялы, у большасці мармур, уцягвалі на канатах уручную дзесяткамі гадоў, а час самой пабудовы здаваўся вокамгненнем!

Узнімаючыся па стромкіх прыступках салідной лесвіцы, збудаванай напрыканцы XX стагоддзя з думкай пра турыстычны рынак, мне чамусьці хацелася думаць пра Меркурыя Смаленскага. Магчыма, тут спрацаваў грэчаскі след беларускага святога, пра які адным словам упамінае сярэднявечны аўтар *Аповесці...*

* * *

Як прыклад талерантнасці і адкрытасці на ідэі Захаду сярэднявечных грамадзян Полацкага княства Уладзімір Арлоў ставіць культ Меркурыя Смаленскага, які па паходжанні быў рымлянінам. У гэты момант хочацца сказаць: праўда, аднак не да канца. У беларускім апокрыфе сустрэнем удакладненне. Меркурый тут сапраўды рымлянін, ён аднак грэчаскай, *благачэснай* веры! У карысць яго грэчаскай нацыянальнасці прамаўляе і ягонае імя і гістарычная геапалітыка. Калі спалучыць яго асобу з духам эпохі, хутчэй за ўсё пабачым у ім адважнага, перапоўненага ідэаламі рыцара. У *Аповесці* наш святы рымлянін — з княжага роду. Ён прыбыў у Смаленск на замак служыць у мясцовага князя. Нідзе не падаецца ўзрост і рост святога, хаця носам адчуваецца яго неаперaны малады дух. За гэтым прамаўляе і цнатлівасць рымскага вяраа, які ў вольны час *малілася* Багародзіцы Адзігітрыі.

Апошнюю заметку варта ўзяць да сэрца. Вось зусім інакш таго ж самага Меркурыя бачаць маскоўскія аўтары культу. Паводле іх рэлігійнай літаратуры, што ўзнікла ажно два стагоддзі пазней (у XV ст.), наш супольны святы быў сынам смаленскага купца. Маладзён увесь вольны час стаяў у Прачысценскай царкве або маліўся ля крыжа за горадам. Там менавіта, ля муроў старажытнага *града*, паклікала яго Божая Маці ды падказала як абараніць Смаленск ад татарскай навалы ...

Яшчэ інакш асобу Меркурыя Смаленскага пабачылі расейскія іканапісцы. На іх іконах святы напамінае рускага князя сталага ўзросту. У яго абліччы прамаўляе сіла, рашучасць і гнеў.

* * *

Каб дастаца ў сярэдзіну цэркваў і музеяў на Вялікім Метэоры, апрача грошай трэба мець адпаведнае адзенне. Ля ўвахода пастаўлена маральная страж. Уся іх увага засяроджваецца на гардэробе турыстак. Кожная з нас атрымае па дзве пелерыны, адну на плечы, другую на порткі. Найбольш „пераапранутымі" выглядаюць малыя ростам японкі, якія проста патанаюць у грэчаскіх апранахах. А амерыканкам яны цеснаватыя — туга абцягнутыя іх адкормленыя жываты, прасвечваюцца здаравенныя лыткі. Дзеля прыгожага здымка яны мігам скінуць з сябе верхнюю пелерыну і з усмешкай заваёўніка свету паглядзяць у фотааб'ектыў або камеру. І зноў апрануцца ў стракатую пелерыну са штучнага матэрыялу.

Спачатку я цягнулася за калонай турыстаў з Японіі, пасля прыстала да мадзьяраў і палякаў. Усе яны спяшалі на панарамную тэрасу, каб там пстрыкнуць фотку на фоне казачнай панарамы. Далей калона ішла набываць сувеніры. Апрача ікон тут прапанавалі святыя алеі, кадзіла, фарфор і ўсякія фінціклюшкі, аздобленыя вывамі Божай Маці...

Самым вялікім фатаграфічным атракцыёнам карысталася адно акенца, за шыбкай якога ляжалі людскія косці і чэрап. Турысты падыходзілі да самога акна, рабілі два-тры здымкі і саступалі месца наступным у чарзе. Чарга, здавалася, цягнецца аж да прыступкаў скалы, звыш 500 метраў...

Ад збянтэжанасці я сфатаграфавала ката, які таптаў па нагах турыстаў і мурлыкаў як у час шлюбнага перыяду. Пабач у музеі знаходзіліся рукапісы з XI стагоддзя і карціны з ілюстрацыяй святыняў манастыра. У цэнтры красаваўся людскі чэрап, ахінуты німбам святасці. Не меншае ўражанне выклікаў насценны роспіс, дзе ў кампаніі святых апосталаў выстойвалі філосафы і матэматыкі: Платон, Піфагор, Архімед...

* * *

Цяжка сказаць ці найранейшая *Аповесць пра пакутніка Меркурыя Смаленскага* ўзнікла адразу пасля 1239 года, калі ў натхненні здзейсніўся адважны чын Меркурыя. Твор пазбаўлены дэталяў і фізічнай атмасферы моманту, больш у ім прыдуманага і шаблоннага, чым жывога, рэпарцёрскага фону. У некалькіх месцах ананімны аўтар робіць агаворку, велічаючы ідэю памяці. Адна памяць — кажа аўтар — здольная паднянць ад забыцця натхнёныя небам чыны і справы. Моц святых мужоў не канчаецца разам з іх смерцю. Наадварот, пасля смерці яна проста ажывае, падказвае як наклікаць цуды святых у любым часе і ў любым месцы. Для гэтага патрэбны малітва і расповед пра іх геройскія або добрыя ўчынкі на зямлі.

Ананім яшчэ больш траплгяе ў сучасную галаву і сэрца натхнёнай гутаркай пра свабоду. Ёй, менавіта, адводзіць найбольш месца ў цэлым творы.

*(працяг будзе)*



ISSN 0546-1960